# наша свабода

№34(261) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

27 САКАВІКА 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


# Андрэй Клімаў: «Я ашалеў ад пачуцця свабоды!»


Фота Ул.ШЛАПАКА

*У панядзелак 25 сакавіка, якраз на Дзень Волі, выйшаў на свабоду апошні беларускі палітвязень, дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканя Андрэй Клімаў. Ён адсядзеў у следчых ізалятарах і калоніі ўзмоцненага рэжыму агулам чатыры гады, адзін месяц і чатырнаццаць дзён. Нагадаем: Клімаў быў асуджаны суддзёй Ленінскага раёну г.Мінску Верай Тупік па абвінавачанні ў эканамічным злачынстве, а дакладней – у крадзяжы ў буйных памерах, да шасці гадоў зняволення.*

Арыштавалі Андрэя Клімава 11 лютага 1998 году і з таго часу ні пад якія падпіскі аб нявыездзе не выпускалі. А вызваленне Клімава адбылося не ўмоўна-датэрмінова, як меркавалі юрысты, а праз замену пакарання папраўча-працоўнымі работамі на астатні тэрмін – крыху менш як два гады. Клімаў павінен хуценька ўладкавацца на працу і аддаваць увесь гэты час 20% ад свайго заробку дзяржаве.

У Беларусі выпускнік Львоўскай пажарнай вучэльні Клімаў здабыў вядомасць: меў поспех у бізнесе, выпускаў сваю «*Газету Андрея Климова*» і ўрэшце стаў дэпутатам парламенту. Напярэдадні рэферэндуму 1996 году, калі дзеянні Лукашэнкі па змене дзяржаўнай канстытуцыі многія ахарактарызавалі як дзяржаўны пераварот, Клімаў уголас заявіў, што гатовы асабіста арыштаваць Лукашэнку, калі толькі таго будзе патрабаваць закон. І рэжым яму такіх выказванняў не дараваў. Пасля былі чатыры доўгія гады, пікеты і ланцугі неабыякавых людзей у абарону апальнага дэпутата. Слёзы маці і жонкі. І вось нарэшце Андрэя вызвалілі.

У першыя гадзіны знаходжання на волі Клімаў займаўся тым, што праводзіў прэс-канферэнцыю і адказваў на пытанні журналістаў. Вось што ён сказаў НАШАЙ СВАБОДЗЕ:

***– Андрэй, як вам першыя хвіліны на волі, што вы адчуваеце?***

– Вы ведаеце, я проста ашалеў, іншага слова не падбяру, ад пачуцця свабоды. І яшчэ ад абдымкаў родных – жонкі, маці, – а таксама Валеры Шчукіна. Увогуле пачуццё свабоды проста п'яніць. І яшчэ радасна, бо я ведаю, што буду рабіць зараз – паеду дадому і буду начаваць не ў турме, а менавіта там, у сябе дома! Напэўна, гэта самыя радасныя хвіліны ў маім жыцці. Нават не ведаю, чаму больш радаваўся б, калі б цяпер аб'явілі, што Лукашэнка падаў у адстаўку – гэтаму альбо вызваленню.

***– Як цягнуліся апошнія дні ў турме, калі вы ўжо ведалі, што праз 2-3 тыдні вас вызваляць?***

– О-о, гэта былі вялікія пакуты. Час цягнуўся невымоўна марудна!

***– Магчыма, рана задаваць такія пытанні, але ці не збіраецеся вы, Андрэй, з'язджаць з краіны альбо, можа, працягнеце нейкую палітычную дзейнасць у Беларусі?***

– А навошта ж я тады сядзеў тут, – каб з'язджаць?! Ды ні ў якім разе! Я застаюся тут і сваю палітычную дзейнасць на новым этапе ўжо лічу распачатай якраз гэтай прэс-канферэнцыяй. А працаваць збіраюся ў складзе Аб'яднанай грамадзянскай партыі поруч з Анатолем Лябедзькам.

***– Тады, магчыма, я магу запытацца ў вас як ва ўжо дзеючага палітыка, што вы думаеце пра цяперашнае палітычнае становішча ў краіне? Магчыма, будуць нейкія прагнозы?***

– Ведаеце... не, цяпер я яшчэ не гатовы рабіць нейкія высновы для прэсы, трэба адаптавацца, увайсці ў курс справаў, адпачыць.

***– Поспехаў табе, Андрэй, на свабодзе!***

Гутарыў Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

## Супрацоўнікі крымінальнага вышуку асуджаны да зняволення

25 сакавіка ў судзе Савецкага раёну Мінску быў абвешчаны прысуд двум супрацоўнікам крымінальнага вышуку Цэнтральнага РУУС беларускай сталіцы – Юрыю Трусу і Марату Новіку.

Яны прызнаны вінаватымі ў наўмысным учыненні службовай асобай дзеянняў, якія яўна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, прадастаўленых па службе, і пацягнулі прычыненне істотнай шкоды правам і інтарэсам грамадзян і дзяржаўным інтарэсам, звязаных з гвалтам і пакутамі пацярпелых і ўжываннем спецыяльных сродкаў. На падставе часткі 3 артыкулу 426 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь Юрый Трус прысуджаны да 3,5 гадоў пазбаўлення волі, Марат Новік – да трох гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Абодва на чатыры гады пазбаўлены права займаць пасады, звязаныя з ажыццяўленнем дзяржаўнай улады. Яны былі ўзяты пад варту непасрэдна ў залі суду.

26 сакавіка ў судзе Кастрычніцкага раёну Мінску суддзя Маргарыта Рыштоўская абвясціла прыгавор у дачыненні да пяці супрацоўнікаў міліцыі, якія раней служылі ва УУС Першамайскага раёну сталіцы. Усе яны прызнаны вінаватымі ў прымяненні фізічнага ўздзеяння ў дачыненні да падазроных і асуджаны да розных тэрмінаў зняволення.

Пацярпелымі ад збіванняў і катаванняў прызнаныя чатыры чалавекі. Суд кваліфікаваў такія дзеянні як перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў (артыкул 167, частка 2 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь у рэдакцыі 1960 году) і прызнаў чатырох супрацоўнікаў крымінальнага вышуку – Уладзіміра Крамсаева, Сяргея Бурдыку, Алега Данчанку, Аляксандра Ерафеева, а таксама былога ўчастковага Мікалая Ліпскага вінаватымі ва ўчыненні злачынстваў, прадугледжаных гэтым артыкулам.

Рашэннем суду Крамсаеў асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі, Ліпскі – да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі, Бурдыка – таксама да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі. Адбываць пакаранне яны будуць у калоніі ўзмоцненага рэжыму. Данчанка і Ерафееў асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.

Асуджаныя і іх абарона маюць намер падаць скаргу на прыгавор.

Генадзь БАРБАРЫЧ




## Прысуд «групе Ігнатовіча» абскардзілі

25 сакавіка маці скрадзенага аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага Вольга Завадская, яго жонка Святлана, а таксама юрыдычны прадстаўнік жонкі на судзе Сяргей Цурко падалі ў калегію па крымінальных справах Вярхоўнага суду Беларусі сумесную касацыйную скаргу на прысуд калегіі па крымінальных справах Мінскага абласнога суду ў дачыненні да былых спецназаўцаў Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка.

Як вядома, калегія Мінскага абласнога суду прызнала В.Ігнатовіча і М.Маліка вінаватымі ў выкраданні аператара *ОРТ*, а таксама ў шэрагу іншых злачынстваў. Яны асуджаны на пажыццёвае зняволенне.

Родныя Д.Завадскага і адвакат С.Цурко просяць Вярхоўны суд спыніць крымінальную справу па эпізодзе выкрадання Д.Завадскага ў адносінах да В.Ігнатовіча і М.Маліка.

Як заявіў БелаПАНу С.Цурко, спыненне справы па гэтым эпізодзе неабходна для актывізацыі расследавання па ўстанаўленні сапраўдных прычын таго, што адбылося.

«Як вядома, у адносінах да неўстаноўленых асоб, якія ўдзельнічалі ў выкраданні Завадскага, крымінальная справа выдзелена ў асобную вытворчасць, і расследаванне павінна працягвацца. Адносна ўдзелу Ігнатовіча і Маліка расследаванне павінна быць працягнута, але ўжо без усялякіх парушэнняў, у строгай адпаведнасці з законам», – лічыць С.Цурко.

БелаПАН



## ВЕСТКІ


Фота Ул.ШЛАПАКА

### Прыйшлі дні дармовай працы

Усе прамысловыя прадпрыемствы Мінскай вобласці вымушаны сёння ўдзельнічаць у зборы грашовых сродкаў на дармовую дапамогу сельскай гаспадарцы. Сума вызначаная «зверху» ў памеры 432 мільёны рублёў. Працаўнікам Слуцкага цукрова-рафінаднага заводу гэта каштавала страты заробкаў у сярэднім па 10 тысячаў рублёў з кожнага.

### Сакавік падвысіў цэны

Звесткі Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі сведчаць, што за першыя два тыдні сакавіка рост спажывецкіх цэнаў у краіне склаў 1,4% (за першы тыдзень – 0,8%, за другі – 0,6). З пачатку гэтага году спажывецкія цэны ў Беларусі выраслі на 11,4%.

### Чарговае рэха вайны

Чамадан з боепрыпасамі быў знойдзены 26 сакавіка ў лясной зоне непадалёк ад вёскі Прымор'е Мінскага раёну. Унутры было шэсць мінамётных мін калібру 50 міліметраў часоў Вялікай Айчыннай вайны. Спецпадраздзяленне «Алмаз» вывезла міны на палігон і знішчыла.

### Магілёўскі арсенал

Падчас правядзення ў Магілёўскай вобласці спецаперацыі «Арсенал» супрацоўнікамі праваахоўных органаў канфіскавана каля 100 адзінак агнястрэльнай зброі. Апрача гэтага, вучэбная граната, некалькі дэтанатараў, каля сотні патронаў.

### Дапаможнік для бяспекі

Расійскае «Выдавецтва дзелавой і навучальнай літаратуры» (Масква) і беларускае выдавецтва «Амалфея» выпусцілі ў свет кнігу вядомага беларускага гісторыка Ігара Кузняцова «Бяспека жыццядзейнасці». Яе прынцыповае адрозненне ад падобных выданняў заключаецца ў тым, што ў дадзенай працы ў канцэнтраваным выглядзе прадстаўлены алгарытмы паводзінаў чалавека ў экстрэмальных сітуацыях, у тым ліку падчас стыхійных бедстваў, тэхнагенных аварый і катастроф, у сітуацыях крымінальнага і бытавога характару, а таксама сацыяльна-палітычнага (падчас мітынгаў і шэсцяў), у перыяд эканамічнага крызісу і беспрацоўя.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1740

# Брэст выйдзе на мітынг

28 сакавіка на брэсцкім стадыёне «Будаўнік» пройдзе мітынг у рамках агульнанацыянальнага адзінага дня прафсаюзных дзеяння. Рашэнне аб гэтым прыняў прэзідыум Брэсцкага абласнога аб'яднання прафсаюзаў.

На пашыраным сходзе 11 сакавіка брэсцкія прафсаюзы падтрымалі акцыю пратэсту, ініцыяваную Федэрацыяй прафсаюзаў Беларускай (ФПБ). 13 сакавіка ў аблвыканкам была пададзена заяўка з просьбай дазволіць правядзенне мітынгу на стадыёне «Будаўнік» 28 сакавіка з 17.30 да 19.00. Аблвыканкам акцыю санкцыянаваў. Аднак некаторыя каракты-вы ў планы прафсаюзаў Брэсцкай вобласці ўнесла рашэнне кіраўніцтва ФПБ аб правядзенні ў Мінску замест маштабнай акцыі пратэсту прафсаюзнага сходу. Тым не менш кіраўніцтва абласнога аб'яднання пастанавіла, што мітынг у Брэсце адбудзецца. Пакуль, праўда, невядома, колькі людзей удасца сабраць, бо многія абкамы прафсаюзаў акцыі не падтрымліваюць. Разам з тым удзельнічаць у мітынгу плануюць прадстаўнікі Свабоднага прафсаюзу Беларускага, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), а таксама Партыі камуністаў Беларускай.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Магілёў правядзе сход

Прафсаюзы Магілёўскай вобласці падтрымаюць агульнарэспубліканскую акцыю пратэсту, прымеркаваную на 28 сакавіка. У гэты дзень будзе скліканы абласны сход прадстаўнікоў працоўных калектываў і прафсаюзных арганізацый. Як паведаміў БелаПАНу выканаўца абавязкаў старшыні абласнога аб'яднання прафсаюзаў Д.Чыканаў, сход пройдзе пад лозунгамі: «Не – росту коштаў!», «За годнае жыццё!», «За правы працоўных!».

# СНІД палоніць Салігорск

Малады горад беларускіх шахцёраў апярэджвае зараз усе райцэнтры і раёны Мінскай вобласці па колькасці хворых на СНІД. 76 чалавек маюць смяротны дыягназ, у тым ліку адна маладая парадзіха. Раней яна пазбягала абследавання ў жаночай кансультацыі, і толькі калі трапіла на бальнічны ложак – выкрылася яе залежнасць ад наркотыкаў і заражанасць СНІДам. Пасля нараджэння дзіцяці жанчына адмовілася ад яго, і цяпер яна на ўцёках.

Асноўная прычына з'яўлення СНІДу ў горадзе – наркотыкі. Барацьбу з іх распаўсюджваннем вядзе міліцыя, але наступствы фіксуюць медыкі. У 2000 годзе ў лекарскіх установах дактары выкрылі 85 чалавек з наркатычнай залежнасцю; у 2001 годзе – 122 і сёлета ўжо 73. Мала дапамагае тое, што ў Салігорску адкрыты пункт абмену шпрыцаў з месячным фондам да 13 тысяч штук, дзейнічае рэабілітацыйны цэнтр царквы хрысціянаў веры Евангельскай і асуджаная за збыт атрутнага зелля 11 чалавек. Салігорск прываблівае наркакур'ераў, бо гэта адзін з нешматлікіх гарадоў Беларусі, дзе ў людзей на руках ёсць грошы. Шахцёры параўнальна нядрэнна атрымліваюць за сваю цяжкую працу.

**Вячаслаў КУЛІК**

# Ажыятаж стварае чэргі

Новы акцызны падатак на ўжываныя аўтамабілі ў Польшчы і непацверджаныя пакуль чуткі пра падвышэнне пошлінаў на аўтамабілі замежных марак у Расіі імкліва ўзнялі актыўнасць так званых гоншчыкаў. У гэтыя дні чэргі на выезд з Беларусі на пераходах мытні «Заходні Буг» – «Варшаўскі мост», «Пясчатка» і «Дамачава» – збіраюць па 300 і больш легкавікоў. А паколькі цяпер, у час школьных вакацый, узмацнюўся паток аўтобусаў з дзецьмі і іх прапускаюць перад усімі, то чакаць дазволу даводзіцца ад світанку да змяркання ці наадварот.

У 2001 годзе з польскага напрамку на беларускі бок было ўвезена 66 000 новых і ўжываных іншамарак. Сёлета тэмпы не слабейшыя. І было б дзіўным чакаць, што бедная Беларусь можа адмовіцца ад «залатога дажджу» мытных пошлінаў на аўтабізнес. Гэта ў Польшчы ўзровень жыцця ўжо дыктуе павышаныя патрабаванні да экалогіі транспарту і яго знешняга выгляду. Таму тут у сакавіку практычна забаранілі ўвоз іншамарак, старэйшых за 6 гадоў, калі павысілі акцызны падатак на іх у межах 50-60% ад ацэначнага кошту. З-за гэтага нашы багацейшыя купцы «лётаюць» цяпер транзітным шляхам праз тэрыторыю Польшчы ў Германію і Галандыю, а біднейшыя шукаюць «колы» ў Балгарыі і Чэхіі. Тое ж робяць і расіяне, толькі ў большым ажыятажы. 24 сакавіка ў праграме *ОРТ «Время»* міністр прамысловасці і навукі Ілья Клябанаў паведаміў, што Расія будзе абараняць сваіх аўтамабілевытворцаў. Паводле яго словаў, павышэнне пошлін на аўтамабілі замежных марак, старэйшых за сем гадоў, можа адбыцца ў чэрвені-ліпені 2002 году.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Калгасы не сеюць

Ужо больш як тыдзень таму адышлі саракі – забытае цяпер веснавое народнае свята абуджэння дрэваў і вяртання птушак. Калі не было калгасаў з іхнімі каляндарна-працоўнымі планамі, то якраз на Святыя Саракі «ў поле саху валаклі». Цяпер жаўранкі ўсё гучней пяюць у небе, а людзі яшчэ «зімуюць».

На **Брэстчыне**, дзе на пачатку вясны найцяплей, на кожны дзень працы ў полі трэба купляць паліва на 300 мільёнаў рублёў. Грошай у калгасаў няма. Збожжа праедзена, жывёла худая. Надоі малака, як адзіная крыніца прыбытку, нават пасля нядаўняга падвышэння кошту закупкі забяспечваюць толькі 200 мільёнаў рублёў дзённай выручкі. З пустым бакам трактар з месца не кранецца.

З-за дэфіцыту грашовых сродкаў на аплату гаруча-змазачных матэрыялаў у Івацэвіцкім, Пінскім, Пружанскім і іншых раёнах не ўзаралі пасля мінулагодняга жніва 19 тысячаў гектараў. Спадзяваліся на дапамогу з рэспубліканскага бюджэту ўвесну – пралічыліся. Кіраўнікі «ляжачых» калгасаў баяцца, як той казаў, сунуць нос на нафтабазу. За 60% гаспадарак вобласці цягнецца доўг за спаленыя на сельгасработах бензін і салярку агульнай сумай 2,1 мільярда рублёў.

Фінансавыя запазычанасці гаспадарак **Гродзенскай** вобласці (3 млрд. рублёў) і **Мінскай** (4 млрд. рублёў) перад заводамі-пастаўшчыкамі мінеральных угнаенняў таксама не дазваляюць разлічваць на большы ўраджай, чым летась. Пры разліковай колькасці па назапашанні мінеральных угнаенняў у 1 мільён 98 тысяч тонаў – іх цяпер толькі 43%. Азоту – 15%, фосфару – 10%, калію – 52%. І хоць заводам зага-



Фота Ул. ШЛАПАКА

Горача зараз на гродзенскім ВА «Азот», але страчанага ўжо не нагнаць.

дана цяпер «дымiць» беспярапынна, аб'ёмы паставак атрымаюцца скарочаныя. У лютым хімікі маглі асвоіць у сваёй вытворчасці 20 мільярдаў рублёў, а ім пералічылі толькі 5,2 мільярда.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Рамонт на вуліцы, бо ў майстэрні цёмна. За доўгі энергетыкі адключаюць электрыку больш як у 400 калгасах.

Яшчэ горшае становішча ў **Магілёўскай і Віцебскай** абласцях з сродкамі аховы раслінаў – на складах сёння ёсць толькі 18% ад неабходнага. Мінсельгасхарч мае задачу дадаткова прывезці з-за межаў краіны 3,4 тысячы тон сродкаў аховы раслінаў, але гэта будзе каштаваць 40 мільёнаў даляраў ЗША. Зноў атрымаць і не заплаціць – не выйдзе: заходнім фірмам нашы аграрнікі застаюцца вінаватыя з мінулага году 15,8 мільёна даляраў.

**Галіна БАРАВАЯ**

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ**

Ці ёсць увогуле сэнс сеяць сёлета калгасам? Не выключана, што дзе-нідзе так і не пасеюць. На месцах з-за крайняй беднасці асмеліліся на тое, што даўно ўжо прапаноўвала дзеля дабрабыту патрыятычная апазіцыя. Прыкладна 960 тысяч гектараў ворыва застануцца неўзаранымі. Гэтыя слабыя землі выводзяцца з севазвароту, каб не закопваць у іх грошы і працу. Тут лепш пасадзіць лес. Праўда, цяпер няма эканамічнай стабільнасці і ўзнікаюць вялікія сумненні наконт эфектыўнасці перакінутых сродкаў. Іх усё роўна не хапае для ўрадлівай глебы нават па мінімуме. Пануе таксама няўпэўненасць, ці дазволяць калгасам пасеяць столькі, колькі яны пацягнуць. Пустазвонныя заявы пра тое, каб зрабіць з Беларусі экспарцёра збажыны, грунтуюцца на беспярапынным пашырэнні зерневага кліна.

**НАШЫ МЯСТЭЧКІ. ДЗЯРЖЫНСК**



«Жалезны» Фелікс па сёння пільнуе былое Койданава

# «Бальшавік» губляе дах

Толькі шчаслівы выпадак дазволіў пазбегнуць людскіх ахвяраў, калі ў мінулы панядзелак абваліліся дах і столь у жывёлагадоўчым памяшканні калгасу «Бальшавік» Салігорскага раёну. Абломкі жалезабетону абрынуліся ўніз праз 15 хвілінаў пасля заканчэння працоўнай змены. Заатэхнік, які апошнім зачыніў дзверы, мусіў уцякаць, напалоханы моцным грукатам і перадсмяротным рыкам жывёлы.

Загадчыца фермы Галіна Катарыновіч паведаміла, што будынак быў здадзены ў эксплуатацыю 3 месяцы таму. Тут былі створаныя ўсе ўмовы для гадоўлі 400 галоў маладняку буйной рагатай жывёлы. Трагедыя пазбавіла жыцця некалькі дзесяткаў цялят.

Да пракурорскага разбору па факце разбурэння памяшкання і гібелі жывёлы прыцягнуты зараз праекціроўшчыкі, будаўнікі, пастаўшчыкі апорных і нясучых канструкцый. Тым часам асцярожныя людзі і ацалелая жывёла мусяць працягваць тэхналагічны працэс адкорму ў сценах без даху, таму што «Бальшавік» – калгас моцны, і ўсе іншыя фермы стопрацэнтна запоўненыя.

**Галіна МАК**

# Здаеш метал – нясі даведку

У Беларусі рыхтуецца яшчэ адзін суровы дэкрэт, заклікаемы ўрэгуляваць пытанні прыёму ў насельніцтва лому каляровых і чорных металаў. Пра гэта 26 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў генеральны дырэктар дзяржаўнага аб'яднання «Белдругмет» (*«Белвтормет»*. – **БелаПАН**.) Мікалай Грыбаноўскі. Ён адзначыў, што факты крадзяжоў каляровых металаў у Беларусі яшчэ маюць месца. У асноўным прадметамі такога роду злачынстваў становяцца правады ліній электраперадачы, трансфарматарныя падстанцыі, сістэмы сігналізацыі і сувязі на чыгунцы. Ёсць факты крадзяжоў каляровых металаў і на прамысловых прадпрыемствах.

Паводле слоў Грыбаноўскага, цяпер пры прыёме лому металаў у насельніцтва абмежаванняў няма. З прыняццем дэкрэту ці ўказу будзе ставіцца адна галоўная ўмова: наяўнасць дакументу, які пацвярджае правы ўласнасці на прынесены металалом. «Калі прынеслі кіламетр сілавога кабелю, то, канечне, будзе запатрабаваны дакумент, які пацвярджае правы ўласнасці. Калі прынеслі фюзеляж самалёта «МіГ-25», то, калі ласка, прадстаўце дакумент, што ён ваш», – паясніў Грыбаноўскі. Што ж да прадметаў бытавога прызначэння, то пры іх здачы такога дакументу не спатрэбіцца.

**Аляксей АРЭШКА**

# ДАІ штрафуе алімпійца

За перавышэнне хуткасці ў Мінску аштрафаваны 27-гадовы брамнік зборнай Беларусі па хакеі Сяргей Шабанаў. Як паведаміў БелаПАНу прэс-аташэ Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі Пётр Рабухін, у ноч з 23 на 24 сакавіка на аўтамабілі «Мазда» С.Шабанаў разам з жонкай, фрыстайлісткай Асоль Слівец, карэспандэнтам радыёстанцыі «Сталіца» Н. Няродай і самім П.Рабухіным вяртаўся з Любані, дзе ў мясцовым палацы культуры праходзіла сустрэча беларускіх алімпійцаў з насельніцтвам. Прыкладна а 1 гадзіне 20 хвілін на вуліцы Коласа машыну спыніў супрацоўнік ДАІ, які заявіў, што машына, згодна з паказаннем радара, рухалася з хуткасцю 69 кіламетраў у гадзіну замест 50. «Ніякія спасылкі на тое, што за рулём адзін з герояў Зімовай Алімпіяды, што аўтамабіль рухаўся не са смяротнай хуткасцю, не падзейнічалі», – сказаў П.Рабухін.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# «Сілавікоў» адвучаць ад палак

*У панядзелак Аляксандр Лукашэнка праводзіў нараду з кіраўнікамі сілавых структураў Беларусі. Нарада адбылася на наступны дзень пасля сілавога разгону дэманстрацыі, прысвечанай гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларусі, калі амаль 100 чалавек былі збітыя і змешчаныя за краты.*

Па словах беларускага кіраўніка, наспела «вострая неабходнасць» выпрацаваць новую стуюць з дзеяннямі міліцыі напярэдадні. Кадры, дзе людзей жорстка хапаюць і потым закідваюць у закратаваныя аўтобусы, абышлі ўвесь свет. Цяпер кіраўніку дзяржавы неабходна «рэабілітавацца» перад замежнымі СМІ, паказаць сябе ў ролі «добрага дзядзечкі», які нават здагадацца не можа, на якія жорсткасці здольная беларуская міліцыя. Але дарэмна. У прэсы – добрая памяць, а фота- і відэаархівы не гараць і не псуюцца з часам.



праваахоўную палітыку на бліжэйшыя гады. Органам правапарадку давядзецца пазбавіцца ад «састарэлых методык і палачна-карнай практыкі». А.Лукашэнка таксама падкрэсліў, што, прымаючы рашэнні па ўдасканаленні сілавых органаў, неабходна «максімальна ўлічваць стан эканомікі і грамадства».

Гэтыя заявы істотна кантра-

На нарадзе А.Лукашэнка казаў, што прыярытэтнымі накірункамі для сілавых структур мусіць стаць супрацьдзеянне прытоку крымінальнага капіталу і спыненне любых карупцыйных праяваў. Ён таксама выступіў супраць фінансавага паджыўлення міліцыі з боку гаспадарчых суб'ектаў – калі тыя напаўлегальна «адшпільваюць» сродкі супрацоўнікам МУС, каб тыя іх надзейна ахоўвалі. Заява, якую, без сумневу, наша міліцыя палічыла «ідэалістычнай».

Пра тое, што кіраўнік дзяржавы жыве ў сваім ілюзорным свеце, які мала нагадвае сапраўдную сённяшнюю Беларусь, сведчыць і заява А.Лукашэнкі: «краіна ідзе правільным шляхам». «Парадак і стабільнасць з'яўляюцца візітнай карткай нашай дзяржавы», – заявіў ён. Па словах дзяржлідэра, у нас адносна нізкі ўзровень злачыннасці і экстрэмізму, і грамадства спакайнейшае ў параўнанні з іншымі краінамі СНД. Ён заявіў таксама, што дзякуючы ягонай палітыцы Беларусь першай з краінаў СНД здолела выйсці з эканамічнага крызісу. Моцная і эфектыўная дзяржаўная ўлада дазволіла захаваць у краіне палітычную стабільнасць, сацыяльную справядлівасць і парадак, а грамадзяне адчуваюць сябе ў бяспецы.

Дарэчы, вядома, што, вярнуўшыся з цывілізаваных краінаў, беларускі падарожнік доўга і з цяжкасцю адвыкае ад тамтэйшых умоваў. Часам блытае мову, валюту, уяўляе, што ён яшчэ там... Магчыма, гэтая «хвароба падарожніка» з непрывычкі напаткала і беларускага лідэра, і вакол яго дагэтуль – заснежаныя ўзвышшы Аўстры.

Беларускі кіраўнік заявіў, што ў найбліжэйшай будучыні не збіраецца ствараць ні «партыі ўлады», ні «кіраванай апазіцыі» – з'яваў, уласцівых суседняй Расіі. У гэтым ёсць сваё рацыянальнае зерне: існуе рэальная небяспека, што з палітычнага асяроддзя (будзь гэта «партыя ўлады» або «кішэнная апазіцыя»), якое ты рупліва гадаваў і вучыў, выб'ецца новы лідэр, які зжарэ старога.

На разгляд А.Лукашэнку свае справаздачы прадставілі дзяржаўны сакратар Савету бяспекі Генадзь Нявыглас, старшыня Вярхоўнага суду Валянцін Сукала, генеральны пракурор Віктар Шэйман, міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў, старшыні камітэтаў: дзяржаўнай бяспекі – Леанід Ерын, памежных войскаў – Аляксандр Паўлоўскі, мытнага камітэту – Аляксандр Шпілеўскі, намеснік старшыні Камітэту дзяржкантролю – дырэктар дэпартаменту дзяржаўных расследаванняў Анатоль Грамовіч, а таксама кіраўнікі падраздзяленняў праваахоўных органаў у рэгіёнах.

Па выніках нарады кадравых перастановак не прадбачыцца. Пра гэта паведаміла агенцтва БелаПАН са спасылкай на дзяржаўны сакратарыят Савету бяспекі. Тамсама паведамілі, што пытанне аб магчымай адстаўцы міністра ўнутраных справаў У.Навумава нават не разглядалася.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## ЗВАРОТ

***Прэзідэнту Літвы Валдасу АДАМКУСУ***
***Прэм'ер-міністру Вялікабрытаніі Тоні БЛЭРУ***
***Прэзідэнту ЗША Джорджу БУШУ***
***Прэзідэнту Латвіі Вайры ВІКЕ-ФРЭЙБЕРГА***
***Прэзідэнту Чэхіі Вацлаву ГАВЕЛУ***
***Прэзідэнту Польшчы Аляксандру КВАСНЕЎСКАМУ***
***Прэзідэнту Украіны Леаніду КУЧМЕ***
***Прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Уладзіміру ПУЦІНУ***
***Канцлеру Нямеччыны Герхарду ШРОДЭРУ***

**Паважаныя Спадары!**

Мы, Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка, журналісты з гораду Гродна, звяртаемся да Вас з просьбай выкарыстаць свой аўтарытэт і ўплыў дзеля таго, каб спыніць запланаваную беларускімі ўладамі расправу над намі.

Мы працавалі ў газеце «ПАГОНЯ», закрытай Вышэйшым Гаспадарчым судом Рэспублікі Беларусь 12 лістапада 2001 году. Працэс закрыцця быў ініцыяваны пракуратурай у сувязі з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй выдання. Пра неабгрунтаванасць такой ініцыятывы можна меркаваць па тым факце, што Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, у інтарэсах якога быў заяўлены гэты спазыск, цягам працэсу адмовілася ад яго. Гэтая пазіцыя кіравалася тым, што няма «**прававаых** падставаў для падтрымкі спазыскавых патрабаванняў аб спыненні дзейнасці сродка масавай інфармацыі – газеты «ПАГОНЯ», якія былі прад'яўлены пракурорам Гродзенскай вобласці». Аднак, гэта не перашкодзіла беларускаму «правасуддзю» завяршыць знішчэнне газеты.

Сёння прыйшла наша чарга. Пракуратура Гродзенскай вобласці высунула нам абвінавачанне па частцы 2 артыкула 367 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь – «Паклёп на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Справа ўжо перададзеная ў суд. Нам пагражаюць пазбаўленнем волі да пяці гадоў. І гэта нягледзячы на тое, што абвінавачанне не базуецца ні на фактах, ні на заканадаўстве Рэспублікі Беларусь. Акрамя гэтага, Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе выкарыстоўваецца крымінальны пераслед па справах падобнага кшталту.

Тры (!) групы экспертаў (дзве з іх былі замоўленыя пракуратурай) далі высновы, што ў прадстаўленых для заключэння спецыялістаў публікацыях паклёпу на прэзідэнта Беларусі няма. Ва ўсіх трох выпадках зробленая адназначная выснова, што па сваёй форме «крамольныя» артыкулы з'яўляюцца не паведамленнем пра якія-колечы факты, а публічным выказваннем асабістай пазіцыі аўтараў, што дазволена беларускім заканадаўствам.

Больш за тое. Дадзеная пазіцыя аўтараў базавалася на шматлікіх публікацыях у замежных і беларускіх сродках масавай інфармацыі, дзе імёны некаторых высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў узгадваліся ў звязку з іх датычнасцю да знікненняў палітычных апанентаў кіраўніка беларускай дзяржавы і дзейнасцю так званых «эскадронаў смерці». Тым не менш замест таго, каб распачаць па факце газетных публікацыяў крымінальную справу і расследаваць яе належным чынам, пракуратура стала затыкаць раты журналістам, робячы з нас крымінальнікаў. І гэта пры тым, што нумары газеты з артыкуламі, якія прыцягнулі ўвагу пракурораў, былі арыштаваныя проста ў друкарні. Гэта азначае, яны не дайшлі да чытача, іх ніхто не чытаў. Такім чынам, не было распаўсюджвання – неабходнай умовы для паклёпу. Усё абвінавачанне ў наш адрас трымаецца на відавочнай фальшыўцы – зляпанай у нетрах Гродзенскага ўпраўлення КГБ дзеля таго, каб «даказаць» распаўсюджванне паклёпа ў інтэрнэце.

Тая абставіна, што расследаванне нашай справы было праведзенае з надзвычай грубымі парушэннямі закону, тое, што былі адхіленыя ўсе нашыя хадайніцтвы, тое, як цынічна праігнараваныя абставіны, што сведчаць аб адсутнасці факту і складу злачынства, гаворыць аб заказным характары крымінальнага пераследу. Прычым гэты заказ, на наш погляд, выходзіць з боку тых асобаў, імёны якіх узгадваюцца ў сувязі з дзейнасцю на Беларусі «эскадронаў смерці». Менавіта гэтыя людзі асабіста зацікаўленыя ва ўтойванні праўды і запалохванні журналістаў. Менавіта ім неабходна зрабіць з нас крымінальнікаў і кінуць на турэмныя нары.

У звязку з тым, што многія з гэтых чыноўнікаў і сёння займаюць адказныя пасты, у нас няма надзеі на аб'ектыўны і справядлівы суд. Паводле інфармацыі, якой мы валодаем, вынік судовага разбіральніцтва ўжо вядомы, называюцца нават канкрэтныя тэрміны пазбаўлення волі. Пазначаныя вышэй абставіны ўскосным чынам пацвярджаюць гэта.

Крымінальная справа супраць нас – у пэўным сэнсе палігон, на якім улада абкатвае механізм задушэння свабоды прэсы. Па нас будуць дзесяткі падобных справаў. Стоячы ў нашай абароне – Вы абароніце ад злачынных замахаў усю беларускую недзяржаўную прэсу.

Правы чалавека і свабода слова, у прыватнасці, не з'яўляюцца ўнутранай справай адной асобнай краіны. Менавіта таму мы звяртаемся да Вас з просьбай узвысіць свой голас супраць беззаконня і самадурства, устаць на абарону дабра і справядлівасці, абараніць нашыя правы грамадзянаў і журналістаў. Просім Вас прыкласці ўсе намаганні дзеля таго, каб гэтая, без перабольшання ганебная для еўрапейскай краіны, справа была як мага хутчэй закрытая.

*25 сакавіка 2002 году*

**Мікола МАРКЕВІЧ**
**Павал МАЖЭЙКА**

## СВОЙ ГОЛАС

***– Ці даводзілася вам сутыкацца з выпадкамі жорсткага абыходжання міліцыі з вамі альбо вашымі знаёмымі?***



**Ала, адвакат:**
– Я ўчора якраз праводзіла справу ў судзе ў якасці прадстаўніка пацярпелага, дзе міліцыянтаў судзілі за жорсткае абыходжанне з затрыманымі. Так што ў якасці ахвяры я не была, але вось пацярпелых ад такіх дзеянняў ведаю.



**Міхаіл, журналіст:**
– Мае знаёмыя сутыкаліся з гэтым. Іх несправядліва абвінавачвалі ў чым-небудзь і пасля недазволенымі метадамі выбівалі паказанні. І гэта было звязана менавіта з фізічным гвалтам.



**Ганна, студэнтка:**
– Не, дзякуй богу, такога ні ў мяне, ні ў маіх знаёмых не здаралася. Але ў тым, што такое бывае, я ўпэўнена.



**Сяргей, менеджэр:**
– Так, і я сам, і мае знаёмыя адчулі гэта на сабе. Рознае было... Нават білі.



**Барыс:**
– Жорсткія дзеянні міліцыі давялося бачыць якраз падчас акцыі, прысвечанай Дню Волі. Я быў уражаны тым, як хапалі старых людзей з кіёчкамі каля помніка Якубу Коласу. Яны ўжо дакладна нічога не парушалі. У іх у руках былі галінкі вярбы, а АМАПаўцы іх хапалі ды цягнулі па зямлі ў машыны.



**Вольга, лінгвіст:**
– Так, адзін раз было, але не буду распавядаць, не хачу ўспамінаць пра гэта.



**Андрэй, эканаміст:**
– Так, аднойчы ў парку імя Горкага п'яная кампанія міліцыянтаў вырашыла, што мы няправільна глядзім на іхных дзяўчат, і, карыстаючыся нашым маладым тады яшчэ векам, пачалі махаць сваімі палкамі.



**Таццяна, беспрацоўная:**
– Са мной асабіста такога не здаралася, але што такое бывае, яшчэ як веру. Мне сын распавядаў.



**Святлана, хатняя гаспадыня:**
– З мужам маім такое здаралася. Можа, ён з сябрамі і сам у чымсьці не меў рацыі, але біць іх было не варта.



**Ларыса, выкладчык:**
– Са мной такога не здаралася, але ж па тэлебачанні шмат разоў паказвалі такое. Так што гэта існуе!



**Алена, працуе ў банку:**
– Не, мне не даводзілася сутыкацца з гэтым, і маім родным таксама, і знаёмым, здаецца, не. Але гэта ёсць, бо мае родныя некаторыя ў міліцыі працуюць, і я гэта ведаю. Але ж вы разумееце, мне прыходзіцца больш-менш лаяльна ставіцца да гэтага.



**Галіна, прадпрымальнік:**
– Ой, даўно я з гэтым знаёмая, але апошнім часам з імі не сутыкалася абсалютна. І гэта добра. Але цяпер усякае можа быць у любы момант.



**Кірыла, рэпарцёр:**
– Не, асабіста да мяне фізічную сілу не ўжывалі. Хоць бывала і варта было б. А іншых часам б'юць заслужана. Галоўнае, каб білі не надта балюча. Я супраць дубінак, ударау нагамі і г.д. Лепш абмазваць дзёгцем і абляпіць курынымі пёрамі! Во сораму будзе.

**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Часам яны вяртаюцца

*Бедное сердечко снова*
*Токает да токает,*
*Мой миленок в МТСе*
*Токарем работает*
**Расійская прыпеўка**

Лясістая краіна паміж Прыпяццю і Дзвіной, Дняпром і Бугам, Нёманам і Бярэзінай населеная пераважна беларусамі. Гэта вялікі народ, які п'е нацыянальны напой «гарэлка» і маўчыць. Нават гімн у яго без словаў. Майстэрства маўчання даведзенае ў аўтахтонаў да такога ўзроўню, што самыя дзіўныя здарэнні і подзвігі правадыроў адлюстроўваюцца не ў эпічных творах і не ў малых формах. Дух нацыі ўвасабляецца ў таямнічай цырымоніі, што завецца «выбары».

Этымалогія наймення сакральнай маніпуляцыі па выяўленні асобаў з паранармальнай здольнасцю «быць праваднікамі волі народу» можа ўвесці ў зман. Між тым за апошнія паўстагоддзя абраннікамі становяцца пераважна адэпты магутнага ордэну агракамуністаў, альбо камунакалгаснікаў.

Сёння смелы падарожнік, які здолее пранікнуць у глыбіню Краю і застацца жывым, можа стаць сведкам масавых культавых працэдураў, што маюць на мэце паспрыяць другому прышэсцю вялікага жраца калгаснага камунізму таварыша Сталіна.

Магі трэцяга ўзроўню – народныя акадэмікі і салідныя журналісты, якім Вялікі Магістр Калектыўнага Земляробства паабяцаў адкруціць галовы за чарговы неспрыяльны для сяўбы год, – пачалі выгукваць: МТС, МТС, МТС!

«Нас уратуе МТС!» – радасна павіскваюць яны пад нагамі ў свайго Бацькі. Сталін памёр вось ужо паўстагоддзя таму. МТСы перажылі яго на пяць гадоў. Хто і чаму хоча вярнуцца да гэтага імя?

Найлепшы адказ дае святая кніга агракамунякаў *«Сельскохозяйственная энциклопедия»* 1953 году выдання. На мове арыгіналу мы цытуем з трэцяга тому, с. 187: *«Товарищ Сталин в своем гениальном труде «Экономические проблемы социализма в СССР» писал: «...сосредоточение основных орудий сельскохозяйственного производства в руках государства, в руках машинно-тракторных станций, является единственным средством обеспечения высоких темпов роста колхозного производства».*

Мы назіраем паслядоўную адпаведнасць тэксту. Напрыклад, у Мінскай вобласці 120 бальшавіцкіх латыфундыяў, разам з прыпісанымі да іх мужыкамі, іхнымі жонкамі, дзецьмі і свойскай жывёлай, будуць размеркаваныя па 18 райаграпрамтэхніках. Наваствораныя эканамічныя пачвары будуць звацца *«машинно-технологические станции»*, альбо, скарочана, МТС.

Яны павінны найперш рабіць паслугі па апрацоўцы глебы, сяўбе, пакосе і жніве. Геніяльная ідэя, упадабаная эксплуататарамі беларускага сялянства, прасоўваецца ў жыццё з жудаснай механічнай паслядоўнасцю.

Нагадаю смелы эксперымент дваццацігадовай даўніны на Магілёўшчыне: механізаваныя атрады па апрацоўцы глебы. Тагачасныя калабаранты падхапілі ідэю перспектыўнага камунааграрыя М.С.Гарбачова. Першымі ляснулі Бялынічы, а праз пару гадоў і ўвесь эксперымент бясслаўна сканаў.

Чаму? Таму што ніхто ні тады, ні цяпер не спрабаваў адказаць на два пытанні. Па-першае, хто будзе плаціць механізатарам за іхныя паслугі? І па-другое, чаму калгасныя прапойцы, запісаныя ў пралетарыяў МТС, раптам павысяць якасць працы?

Пра тое, чаму калгаснікі співаюцца і паміраюць, камунякі не думаюць, бо ненавідзяць народ, які іх спарадзіў і корміць. Ідэолагі калгаснага ладу рыхтуюць тым няшчасным сялянам, якія ацалеюць пасля першага этапу рэформы, наступнае выпрабаванне.

У калгасаў забяруць зямлю, фермы, правы юрыдычнай асобы і пакінуць субрахунак на бягучыя разлікі. Гэта значыць, што ў майго таты адабралі зямлю, а калі б я і мае дзеці мелі няшчасце застацца ў дзедаўскай хаце, то на другім этапе ў нас адабралі б нават фармальныя правы.

Але вернемся да вышэйзгаданых пытанняў. Хто стане плаціць? На сёння грашовыя сродкі на рахунках калгасаў у сорак разоў меншыя, чым іхная пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць. Тая запазычанасць роўная 600 мільярдам рублёў, а дзве трэція з яе – «безнадзейныя» грошы.

Каб было зразумела, што такое калгасы сёння, звярніце ўвагу – уся прадукцыя дзяржсектару за студзень каштавала 165 мільярдаў. Крэдыторы чакаюць суму ў дзевяць разоў большую.

Шаманы рыначна-калгаснага сацыялізму гэта ведаюць лепш за вас, шаноўныя чытачы, але ўпарта працягваюць бубніць нешта пра ўласныя сродкі прадпрыемстваў, бюджэтныя сродкі і крэдыты на аднаўленне і закупку па лізінгу сельскагаспадарчай тэхнікі.

Таварыш Сталін, якога чэрці смажаць у пекле, гэта бачыць і адчувае палёгку, як ад вады крынічнай. Жыве і перамагае ягоная справа на зямлі анямелых беларусаў, *«побуждая мелких земледельцев переходить к крупному, коллективному, машинному земледелию»*.

Дзесяцігоддзямі цягнецца і цягнецца бальшавіцкі эксперымент. Доля ручной працы з разліку на адзінку спажытай нацыяй прадукцыі ўласнай вытворчасці – найвышэйшая ва ўсёй Еўропе. Чаму ж яны нарэшце не здаволяцца і не адчэпяцца ад нашых людзей?

Здагадайцеся самі.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

# Не трэба громка лятаць

Беларусі, відаць, не ўдасца пазбегнуць наступстваў увядзення з 1 красавіка новых міжнародных патрабаванняў па ўзроўні шумоў рухавікоў да працуючых на міжнародных рэйсах грамадзянскіх суднаў.

Як паведаміў БелаПАНу першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэту па авіяцыі Вадзім Мельнік, перамовы дэлегацыі беларускіх авіятараў, якія прайшлі ў канцы мінулага тыдня ў Брусэлі з кіраўніцтвам дырэктарату Еўрапейскай камісіі па паветраным транспарце, скончыліся для Беларусі не найлепшым чынам. Еўрапейскія структуры не хочуць ісці на саступкі ў гэтым пытанні, іх пазіцыя застаецца нязменнай: Беларусь, як і іншыя дзяржавы, падпадае пад дзеянне прынятай Міжнароднай арганізацыяй грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) канвенцыі, якая робіць больш жорсткімі патрабаванні да ўзроўню шумоў рухавікоў да грамадзянскіх суднаў, што працуюць на міжнародных рэйсах.

У той жа час, як падкрэсліў Мельнік, Беларусь не з'яўляецца вытворцам паветраных суднаў і карыстаецца самалётамі, выробленымі ў Расійскай Федэрацыі. Аднак самі расійскія вытворцы паветраных суднаў нейкіх вынікаў у частцы аслаблення ці адмены новых патрабаванняў дабіцца так і не змаглі.

Паводле словаў Мельніка, у Беларусі абмежаванні закрануць шэраг самалётаў, якія знаходзяцца цяпер у эксплуатацыі: сем «Ту-134», чатыры «Ту-154Б» і крыху больш за 20 самалётаў «Іл-76». У той жа час, як адзначыў першы намеснік кіраўніка Дзяржкамавіяцыі, у авіяцыйным парку Беларусі ёсць чатыры «Ту-154М», адпаведныя новым шумавым патрабаванням, а таксама самалёты «Як-40» і «Ан-24», якія не падпадаюць пад дзеянне названага пагаднення паводле сваёй максімальнай узлётнай масы. Тым не менш відавочна, што ў выніку ўвядзення новых патрабаванняў Беларусь будзе страчваць аб'ёмы сваіх авіяперавозак.

**Аляксей АРЭШКА**

## Самі гонім – самі п'ём

Кіраўніца абласнога ўпраўлення гандлю Яўгенія Раманава заявіла нават пра магчымыя звальненні кіраўнікоў гандлёвых прадпрыемстваў, якія не прыкладуць належных намаганняў, каб выканаць рэкамендацыі абласнога кіраўніцтва аб першачарговай закупцы гандлем тавараў мясцовых вытворцаў. Прычым цяпер геаграфія паходжання тавараў абмяжоўваецца Віцебскай вобласцю. У аблвыканкаме лічаць, што перанасычанасць гандлю таварамі, выробленымі ў іншых абласцях Беларусі і за мяжой, – асноўная прычына адсутнасці збыту на мясцовых прадпрыемствах і дэфіцыту мясцовых бюджэтаў. Віцебскае кіраўніцтва сцвярджае, што робіць захады па абмежаванні продажу «чужых» тавараў на сваёй тэрыторыі апошнім у Беларусі. Але спробы ўвесці падобныя абмежаванні ўжо рабіліся напрыканцы мінулага году, калі ў шэрагу надзвычайных распараджэнняў, прынятых, каб выправіць крызіснае становішча ў гаспадарцы, Віцебскі аблвыканкам забараніў вывозіць за межы вобласці мяса і малако ў неперапрацаваным выглядзе і завозіць для продажу вырабленую за межамі вобласці гарэлку.

Як меркавалася, абмежаванні на вываз ды ўвоз пэўных прадуктаў харчавання мусяць дапамагчы вытворцам на тэрыторыі вобласці. Але тады Віцебская абласная пракуратура змусіла Віцебскі аблвыканкам перагледзець пэўныя пункты гэтага рашэння і часткова адмяніць абмежаванні.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

## «Дальнабойшчыкам» далі 120 тысяч паездак

Узгоднена квота дазволаў на праезд беларускіх аўтамабільных перавозчыкаў па тэрыторыі Польшчы ў гэтым годзе.

Як паведаміў БелаПАНу першы намеснік міністра транспарту і камунікацый Беларусі Мікалай Верхавец, па выніках сустрэчы квота дазволаў на праезд у Польшчу і цераз яе тэрыторыю на гэты год узгоднена ў неабходным памеры і складзе для айчынных аўтаперавозчыкаў каля 120 тысяч паездак.

Паводле слоў Верхаўца, падчас перамоў польскі бок таксама з разуменнем паставіўся да пазіцыі транспартнікаў Беларусі па пытанні збірання з беларускіх перавозчыкаў так званага выраўнавальнага збору. Гэтая мера, уведзеная польскім бокам, прадугледжвае, што беларускія перавозчыкі пры ўездзе і транзітным перасячэнні тэрыторыі Польшчы павінны выплачваць дастаткова вялікую суму грошай. Як адзначыў Верхавец, беларускіх транспартнікаў такая пазіцыя не можа задавальняць, і наконт гэтага ўжо праводзілася некалькі раундаў перамоў. Падчас цяперашняй сустрэчы была дасягнута дамоўленасць аб тым, што на працягу красавіка польскі бок паінфармуе беларускіх калег аб магчымым зняцці гэтых збораў.

**БелаПАН**

## Малдова дзякуе Беларусі

Прэзідэнт Малдовы Уладзімір Варонін, выступаючы 25 сакавіка на цырымоніі перадачы малдаўскім сельгаспрадпрыемствам партыі трактароў Мінскага трактарнага заводу, выказаў падзяку прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку «за садзейнічанне ў адраджэнні сельскай гаспадаркі Малдовы». «Эшалон з беларускімі трактарамі – вынік інтэграцыі Малдовы ў СНД і – ужо не на словах, а на справе – вынік умацавання беларуска-малдаўскіх адносінаў», – заявіў ён.

У адпаведнасці з дамоўленасцю кіраўнікоў дзвюх дзяржаў, да канца году МТЗ паставіць у Малдову 400 трактароў коштам больш чым 9 тысяч даляраў кожны.

**Алег САКАЛОЎ**

**ЭКСПРЭС**

## Эканамічныя нататкі

### «Славянка» і «Найк» – два ў адным

Бабруйскае акцыянернае таварыства «Славянка» ў гэтым годзе працягне выпуск мужчынскага верхняга адзення пад маркай «П'ер Кардэн». Поспехам гэтага прадпрыемства таксама стала рэалізацыя заказу кансорцыума «Найк», па якім было выраблена некалькі дзесяткаў тысяч спартыўных касцюмаў, кашуль і шортаў, адпраўленых у розныя краіны свету. Кансорцыум даў высокую адзнаку бабруйскай прадукцыі і абвесціў, што збіраецца размясціць на «Славянцы» новы заказ. Таварыства экспартуе каля 80% сваёй прадукцыі ў Германію, Галандыю, ЗША, Фінляндыю і Расію.

### Рыбныя справы ў міждзяржаўных адносінах

На мінулым тыдні было заключана пагадненне паміж урадамі Беларусі і Расіі аб супрацоўніцтве ў галіне рыбнай гаспадаркі тэрмінам на 10 год. Яно прадугледжвае ўзгадненне палітыкі ў вытворчасці і збыце рыбнай прадукцыі, рэалізацыю сумесных праектаў у галіне здабычы, транспарціроўкі і захавання рыбы, абмен навукова-тэхнічнай інфармацыяй. У рамках пагаднення Расія згодна прадастаўляць рыбныя парты для базавання сумесных расійска-беларускіх прадпрыемстваў пад сцягам РБ, а таксама права на карыстанне гэтымі партамі на ўмовах роўнасці з суднамі РФ. Акрамя таго, РФ будзе штогод разглядаць аб'ёмы выдзялення рыбных рэсурсаў у сваёй эканамічнай зоне для нашай дзяржавы і выдаваць ліцэнзіі на іх промысел сумесным арганізацыям.

### Свайму хвораму – свае лекі

Сёння Беларусь забяспечваецца лекавымі сродкамі за кошт уласнай вытворчасці прыкладна на 20%. Усяго ў рэспубліканскім спісе асноўных лекавых прэпаратаў каля 400 найменняў (прыкладна 100 з іх цалкам пакрываюцца айчыннымі вытворцамі). На думку міністра аховы здароўя Уладзіслава Астапенкі, краіна можа забяспечыць сябе лекамі менш чым напалову. Ён адзначае, што нават краіны з развітай фармацэўтычнай прамысловасцю забяспечваюць сябе неабходнымі лекамі толькі на 30%, астатняе дапаўняецца за кошт міждзяржаўнага супрацоўніцтва.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Вольга Іпатава: «З'езд – нагода для расколу»

*У траўні гэтага году Саюз беларускіх пісьменнікаў можа раскалоцца. Прычынай таму – канфлікт у кіраўніцтве Саюзу.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

Канфлікт у Саюзе беларускіх пісьменнікаў і яго магчымыя наступствы каментуе старшыня Саюзу пісьменніца Вольга Іпатава.

***– Спадарыня Вольга, ці сапраўды Рада СБП вырашыла правесці надзвычайны з'езд?***

– Рада рашыла, што з'езд будзе, – але Рада можа і адмяніць гэтае рашэнне. З'езд пройдзе ў траўні з тэмай «Літаратура і яе надзённыя пытанні». Дакладную фармулёўку не магу сказаць, але яна пра літаратуру і яе надзвычайнае становішча. Гэта ніякі не надзвычайны з'езд. Па сутнасці, з'езд у нас праводзіцца не радзей як раз у чатыры гады.

***– Мяркуючы па ўсім, фармальнай падставай для цяперашняга канфлікту сталася разрэкламаванае «звальненне» вашых двух намеснікаў: Віктара Праўдзіна і Уладзіслава Мачульскага. Ва ўсякім выпадку, менавіта так падае сітуацыю Віктар Праўдзін. Ці не маглі б Вы – дзеля высвятлення сапраўднай сітуацыі, што склалася ў Саюзе пісьменнікаў, – спыніцца на перадгісторыі канфлікту?***

– Адбылося вось што. Апарат Саюзу пісьменнікаў ёсць, людзі прыходзяць на працу, але 9 месяцаў не атрымліваюць заробкаў. У мяне такое ўражанне: хацелі, каб мы ціха выйшлі з Дому літаратара, і такім чынам праблема Саюзу пісьменнікаў вырашылася б сама сабой – ён проста сканаў бы. І я вырашыла стаяць да таго часу, пакуль нас не вынесуць з Дому літаратара. Такім чынам, мы кантралюем гэтую сітуацыю ўжо больш за дзевяць месяцаў і працуем. Натуральна, мае намеснікі ўжо не вытрымліваюць. Я абсалютна іх разумею як людзей. Хаця першы намеснік Праўдзін – маёр у адстаўцы, атрымлівае пенсію ў два разы большую, чым мая, другі намеснік Навум Гальпяровіч пайшоў на Радыё – яму трэба карміць дзяцей; а Уладзіслаў Мачульскі – былы ваенны пракурор, таксама атрымлівае даволі высокую пенсію. Праўдзін, да ўсяго, яшчэ і стыпендыю атрымлівае ў Міністэрстве культуры, якую яму далі сёлета і пра якую я хадайнічала не без надзеі, што чалавек, атрымліваючы хоць невялічкую стыпендыю, будзе працаваць на Саюз пісьменнікаў. У рэшце рэшт яны зразумелі – грошай няма. З-за чаго? З-за палітыкі Іпатавай: Іпатава нібыта «якшаецца з апазіцыяй». І яны пайшлі рубам. Пайшлі выслугоўвацца перад уладай, паколькі ўжо трэба на каленях паўзці да ўлады, каб хоць нешта займець. І пад соусам няправільнай палітыкі кіраўніцтва быў справакаваны канфлікт з прычыны звальнення, якога на самой справе не было дый быць не магло. Маіх намеснікаў зацвярджае Рада, а сварыцца з Радай у такой цяжкой сітуацыі я не стала б. Гэта людзі, якіх я сама рэкамендавала. Таму я спрабавала ўтаймаваць іх, угаварыць пачакаць яшчэ крыху. Відаць, запас цярпення скончыўся, і яны пабеглі ў кірунку да засведчання сваёй лаяльнасці, поўнай лаяльнасці перад уладай. Вось і ўсё.

***– Значыць, ні Праўдзін з Мачульскім, ні Гальпяровіч не былі звольненыя ні Вамі, ні радай Саюзу пісьменнікаў?***

– Яны проста не маглі быць звольненыя. Была ў нас з намеснікам-юрыстам нарада: як зрабіць, каб доўг перад работнікамі апарату не рос з кожным месяцам? 26-га я іду на суд – іск да нас выставіла наша бухгалтарка Святлана Рыбакова. Яна падала іск у кіраўніцтва Саюзу аб нявыплаце ёй грошай. Пасля станоўчага рашэння суду мы будзем вымушаныя прадаць нашу маёмасць і выплаціць ёй грошы. А каб доўг не рос – мы з намеснікам вырашылі мяняць структуру, скарачаць людзей. Яны выкарысталі гэта як нагоду для заявы, што я іх нібыта скараціла. Гэта быў праект загаду аб скарачэнні – і мы пра гэта напярэдадні дамаўляліся. Яны бессаромна даюць інфармацыю, што я нібыта іх звольніла. Я паказала аркушык з подпісам, дарэчы, юрыста Праўдзіна, на якім няма ні майго подпісу, ні нумару. Гэта быў узгоднены з імі, прынамсі з адным з намеснікаў, праект загаду аб звальненні.

***– У якія формы вылілася выказванне лаяльнасці?***

– Яны запатрабавалі склікання пазачарговага з'езду, каб зняць старшыню, якая вядзе палітыку, што не падабаецца кіраўніцтву. І не аплачваецца, натуральна, ніякім чынам. Пачытайце мае артыкулы ў «ЛіМе», дзе я абмалёўвала ўсю сітуацыю з Домам літаратара. Я выкладаю ўсю праўду, як у нас адбіралі Дом літаратара, як нас гвалтавалі, як мы перажылі страшныя моманты, калі тупыя начальнікі гэтага Дому літаратара – ужо не нашага, здзекаваліся з нас. Я пра ўсё гэта напісала як ёсць.

***– Ці значыць гэта, што глыбінны сэнс канфлікту цягнецца з часоў, калі кіраўніцтва справамі прэзідэнта прыбрала Дом літаратара да сваіх рук?***

– З Домам літаратара – так. Але цяпер сэнс канфлікту палітычны: ці мы будзем стаяць перад уладай на каленях і ўпрошваць яе, ці будзем дабівацца сваіх правоў. Гэта палітычны, а не фінансавы канфлікт. Нагода, вядома, фінансавая: 9 месяцаў нам не выплачваюць грошай, нават прадугледжаных у бюджэце 2001 году. Нагода ў гэтым, а сутнасць – як пойдзе пісьменніцкая арганізацыя, якім шляхам? Сутнасць – неразуменне таго, што і нам трэба жыць па-новаму. У гэтай сітуацыі, калі зразумела, што фінансавання, як за савецкім часам, не будзе, я патрабавала вярнуць нам Дом літаратара. Аддайце нам наш Дом літаратара, нашу паліклініку – мы самі сябе, як той казаў, пракормім, пражывём без вас, без улады.

***– З 1997 году, калі ў Саюзу адабралі Дом літаратара, арганізацыю паставілі на бюджэтнае фінансаванне?***

– Гэтае фінансаванне невялічкае, і практычна апарат ёсць, а грошы на правядзенне вечарынаў, караценні, на рэалізацыю хаця б статутных мэтаў я даставала дзе магла. Але трэба было ўвесь час варушыцца, хадзіць і нешта шукаць для Саюзу – і я гэта рабіла.

***– Вольга Міхайлаўна, на Радзе 19 сакавіка гучала заклапочанасць, што пазачарговы з'езд Саюзу пісьменнікаў – гэта шлях проста да расколу. Наколькі сур'ёзныя такія трывогі?***

– Я лічу, што гэта вельмі сур'ёзна. Гэта абсалютная нагода для расколу. Нават літаратары, якія прапаноўвалі правесці з'езд па праблемах літаратуры, можа, не ўсведамлялі, але прапаноўвалі менавіта з'езд, хаця гучалі думкі наконт правядзення агульнага сходу, пленуму... З'езд – гэта ў любым выпадку магчымасць расколу. Тым больш, што Праўдзін назаўтра пасля Рады заявіў, што хоча ставіць пытанне аб зняцці старшыні Саюзу. Ён жа, відаць, даў гэтую няправільную інфармацыю, што я звольніла трох намеснікаў. Хаця як юрыст ён разумее, што гэта не так – ён увёў «Звязду» ў зман. І таму я заявіла: кожны раз, як хто будзе паўтараць гэтую няпраўду, я буду вымушаная праз суд даказваць, што ніякага звальнення не было.

***– А сам Віктар Праўдзін – пісьменнік?***

– Віктар Праўдзін, былы маёр міліцыі, – піша дэтэктывы. А Мачульскі – ваенны пракурор, ён ніякі не пісьменнік зусім. Але ён у нас займаўся гаспадарчымі справамі і, як юрыст, быў на той час – у 1998-99 гады – вельмі патрэбны: мы выйгравалі суды за наш Дом творчасці «Іслач» і гэтак далей. Сёння я іх нават апраўдваю – гэтыя людзі без грошай ужо 9 месяцаў. Але яны не разумеюць, што справа не ў Іпатавай. А справа ў тым, што творчыя Саюзы сёння ўвогуле ў заняпадзе, кожны выкарабкваецца, як можа.

Гутарыў **Рыгор БУЯН**

# Змяні пашпарт!







*Збіраючыся ў паездку за мяжу, людзі ідуць у аддзел пашпартна-візавай службы. Пра навіны гэтага падраздзялення карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ гутарыць з начальнікам АПВС УУС Савецкага раёну Мінску Сяргеем Субачам.*

***– Дзеянне замежнага агульнаграмадзянскага пашпарта спынена 1 студзеня бягучага году. Ці ёсць якія абмежаванні на дзеянне пашпарта грамадзяніна СССР узору 1974 году і на першы беларускі нацыянальны пашпарт з гістарычным гербам?***

– Дакумента, у якім быў бы вызначаны тэрмін дзеяння пашпарта грамадзяніна СССР і пашпарта з «Пагоняй», не існуе. Але, улічваючы, што такой дзяржавы, як СССР, няма і не будзе, мы раім грамадзянам нашай краіны атрымліваць нацыянальны пашпарт. Да таго ж па савецкіх пашпартах немагчыма выехаць за мяжу, нават памежнікі краін СНД патрабуюць, каб у пашпарце грамадзяніна СССР быў штамп аб прыналежнасці да грамадзянства Беларусі. Памежнікі краін СНД патрабуюць, каб і дзеці таксама мелі пашпарт. Больш лаяльныя ў гэтым сэнсе толькі расійскія памежнікі.

***– Сяргей Раймундавіч, атрымліваецца, што прэтэнзіі натарыусаў, банкаўскіх служачых і сацыяльных работнікаў да ўладальнікаў старых пашпартоў не абгрунтаваныя?***

– Банкаўскія служачыя ведаюць, што ступень абароны ў нацыянальнага пашпарта значна вышэйшая, чым у савецкага, і такім чынам яны перастрахоўваюцца ад магчымай падробкі дакумента. Сацыяльныя работнікі патрабуюць новы пашпарт таму, што з наступнага году рэгістрацыйны нумар у сацыяльнай службе і нумар пашпарта будуць супадаць.

***– Набліжаецца час адпачынкаў, ці адчуваеце вы гэта па колькасці наведнікаў?***

– Пакуль не. Цяпер у нас асноўныя наведнікі – старшакласнікі, якія не атрымалі пашпарт своечасова – у 16 гадоў, а цяпер, калі ён ім неабходны на тэставанне ў ВНУ, прыходзяць разам з бацькамі і просяць, каб мы яго ім зрабілі за дзень.

***– Вядома, што законам вызначаны тэрмін афармлення пашпарта – месяц. Як жа школьнікі могуць атрымаць яго раней?***

– У выключных выпадках мы маем магчымасць і хутчэй афарміць пашпарт. І прыходзіцца ў такіх выпадках ісці насустрач грамадзянам.

***– Але ж несвоечасовае атрыманне пашпарта і абмен яго – адміністрацыйнае правапарушэнне?***

– Першы раз трэба атрымліваць пашпарт у 16 год, потым абменьваць яго ў веку 25, 45 і 100 год. Звычайна, калі да нас прыходзяць упершыню па пашпарт у 17 год ці на пяць год пазней абменьваюць яго, мы не складаем пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні. Калі ж таго грамадзяніна выявіць участковы інспектар падчас праверкі пашпартнага рэжыму, то пратакола, а потым і штрафу яму не пазбегнуць.

***– Давайце вернемся да тэмы адпачынкаў. Колькі каштуе афармленне дазвольнага штампіка ў пашпарце? І што рабіць, калі скончыліся старонкі для віз, а тэрмін дзеяння штампіка – не?***

– Дазвольны штампік можна афарміць толькі на пяць год. Каштуе гэта 50 тысяч рублёў. Для пенсіянераў прадугледжана зніжка да 50%. А дзецям да 16 год увогуле такі штамп афармляецца бясплатна. Калі ў грамадзяніна скончыліся старонкі для візаў, то ён павінен афарміць новы пашпарт. Мы пераносім туды штамп бясплатна на рэшту тэрміну яго дзеяння. Падкажу вашым чытачам такую рэч: калі дзіця прыносіць дакументы на афармленне пашпарта хай сабе за адзін дзень да 16-годдзя, то штамп яму будзе афармляцца «па дзіцячых правілах».

***– Каб у пашпарт дзіцяці паставіць штамп, які дазваляе часовы выезд ва ўсе краіны свету, неабходны нейкія адмысловыя дакументы?***

– Нічога адмысловага. Акрамя пасведчання аб нараджэнні, якое зусім не абавязкова завяраць за грошы ў натарыуса, а можна бясплатна ў нас ці ў ЖЭСе, трэба мець пісьмовы дазвол на выезд дзіцяці ад абаіх бацькоў. Нават калі яны скасавалі шлюб. Дастаткова дазволу аднаго з бацькоў, калі другі стала жыве за межамі нашай краіны (мы гэта правяраем) ці калі дзіцяці неабходна ехаць за мяжу на лячэнне. Не на аздараўленне, а на лячэнне, і гэта павінна быць пацверджана адпаведнай медычнай даведкай.

***– Ці ёсць такія катэгорыі грамадзян, якім вы маеце права адмовіць у магчымасці часовага выезду за мяжу?***

– Адмаўляем тым, супраць каго ўзбуджана крымінальная справа, вынесены ўмоўныя прысуды ці яны маюць адтэрміноўку выканання прысуду. Не могуць выехаць за мяжу грамадзяне, якія маюць невыкананыя абавязацельствы, накладзеныя судом, і якім прад'яўлены судовы іск. Таксама прыпыняем магчымасць выезду за мяжу грамадзян, якія маюць запазычанасць перад падатковымі органамі.

***– З сакавіка ваша служба працуе без выходных. А якія часы прыёму грамадзян?***

– Кожны дзень з 9 гадзін раніцы да 20 гадзін вечара. У суботу і нядзелю – з 9 раніцы да 16.

## Хацелі як лепей… (ад аўтара)

На першы погляд, вельмі добра, што аддзелы пашпартна-візавай службы пачалі працаваць па новым графіку. Але большая колькасць працоўных гадзін не прывяла да павялічэння колькасці супрацоўнікаў АПВС. Значыць, той, хто працаваў у нядзелю, павінен атрымаць выходны, напрыклад, у сераду. Акрамя таго, кожны супрацоўнік АПВС мае сваю спецыялізацыю: нехта валодае пытаннямі прапіскі-выпіскі, нехта – атрыманнем грамадзянства, нехта спецыялізуецца на рэгістрацыі іншаземцаў. Такім чынам, калі ў нядзелю будзе дзяжурыць не той інспектар АПВС, то наведніку трэба будзе прыйсці ў іншы дзень. Ранейшы графік работы АПВС прадугледжваў пэўныя гадзіны на працу з прыватнымі наведнікамі, пэўныя – на працу з пашпартысткамі з ЖЭСаў і на працу па афармленні дакументаў. Цяпер дзверы аддзелаў пашпартна-візавай службы адчыненыя для ўсіх разам на працягу ўсяго працоўнага дня. Уявіце сабе, што перад вамі ў чарзе апынулася пашпартыстка ЖЭСу, якая прынесла 50 дакументаў. Вы праклянеце таго, хто прыдумаў такія правілы.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Насустрач украінскай вясне

**Юлія ЦІМАШЭНКА,**
**былы намеснік прэм'ер-міністра і міністр энергетыкі Украіны**



*Кожнага чалавека, які жыве ўва Украіне, прымушаюць верыць у тры вялікія хлусні. Першая палягае ў дапушчэнні таго, што сённяшняе ганебнае бязладдзе – эканамічны крах, галеча, беспрацоўе – натуральнае наступства нашага посткамуністычнага пераходнага перыяду. Гэта цынічна і жорстка; больш за тое, гэта небяспечная хлусня. А праўда палягае ў тым, што дзень за днём украінцаў гвалтоўна пазбаўляюць большай часткі нацыянальнага багацця. Нас пазбаўляюць яго ў выніку здрады з боку дзяржавы, заключэння незаконных пагадненняў, а таксама праз карумпаванасць і некампетэнтнасць чыноўнікаў.*

Другая няпраўда – што нехта «там» дапаможа Украіне ўстаць на ногі. Мы, стаіўшы дых, наіўна чакаем шчаслівага моманту, калі прыбудзе наступная порцыя замежнай дапамогі. Мы павінны перастаць верыць у імпартаванні лекі. Дзе нашае пачуццё ўласнай годнасці? Мы павінны прыйсці да разумення, што ніхто не дапаможа Украіне выратавацца, апроч нас саміх. Мы павінны скарыстаць свае ўласныя здольнасці і інтэлект, а не чакаць міласціны з-за мяжы.

Трэцяя хлусня – гэта боязь нестабільнасці і сацыяльных хваляванняў, якія, магчыма, могуць успыхнуць, калі прэзідэнт Кучма і яго хаўруснікі праваліцца на наступных выбарах. Але замест бязладдзя я прадбачу толькі святкаванні ў выпадку ягонага правалу. У кожным выпадку, нестабільнасць маламагчымая, бо нашыя дзяржаўныя чыноўнікі на ўсіх узроўнях забудуцца на Кучму ў тую самую секунду, калі падлік галасоў абвесціць ягоную паразу. Яны будуць надта занятыя думкамі пра саміх сябе, каб непакоіцца пра яго ці рабіць якія прыкрасці. Апроч таго, у цывілізаваных краінах змена ўраду ўспрымаецца як прыкмета стабільнасці. Украіне патрэбная такая прыкмета, і яна да гэтага падрыхтаваная.

Парламенцкія выбары, што пройдуць 31 сакавіка, дадуць адказ на галоўнае пытанне, якое ўсе задаюць пра Украіну: ці зможам мы пераадолець недахоп веры ў саміх сябе, пераадолець свае жахі, забяспечыць сапраўдную дэмакратычную незалежнасць? Ці ўкраінцы назаўжды застануцца пужлівымі рабамі? Калі так, то не мае значэння, хто будзе тут гаспадаром: Кучма, ягоны пераемнік, Расія ці нават нейкая іншая магутная дзяржава. Але ўкраінцы цяпер маюць мірны і канстытуцыйны сродак, з дапамогай якога яны могуць змяніць сваю краіну і пражыць свае жыцці без гаспадара. Каб гэта зрабіць, мы павінны аб'яднацца супраць цяперашняга рэжыму.

Прэзідэнт Кучма цудоўна ведае, як мала яму давярае народ. Вось чаму ён імкнуўся, каб у назвах палітычных партыяў, што яго падтрымліваюць, не фігуравала ягонага імя. Замест гэтага ён стварыў тузін партый, мэта якіх – гэткімі хітрыкамі правесці ў парламент пракучмаўскія фігуры. Гэтыя партыі-прыслужніцы дзейнічаюць пад рознымі імёнамі: «За адзіную Украіну», «Сацыял-дэмакратычная партыя (аб'ядналая)», «Украінская партыя зялёных», «Жанчыны за будучыню», «Дэмакратычны саюз», «Новае пакаленне»... Калі меркаваць па назвах, то ўсе яны легітымныя і пераследуюць добрыя намеры, але ўсе яны падтрымліваюць карумпаваную сістэму. Украінцам варта галасаваць за тыя партыі, лідэраў якіх яны добра ведаюць і якім давяраюць.

Але толькі палова нашага парламенту – Вярхоўнай Рады – выбіраецца па партыйных спісах. Другая палова абіраецца шляхам непасрэднага галасавання ў так званых мажарытарных выбарчых акругах. Якраз тут можна знайсці большасць дэпутатаў-хаўруснікаў Кучмы. Простыя ўкраінцы ведаюць, хто яны такія, бо іх начальнікі кажуць і нават загадваюць ім галасаваць за гэтых людзей. Такія кандыдаты арганізуюць канцэрты і раскідаюць грошы, лекі, ежу, адзенне, камп'ютэры ды іншыя прынады. Некаторыя нават абяцалі пабудаваць газаправоды. Мая парада выбарцам: *бярыце ўсё, што даюць!* Гэтыя падарункі куплялі на грошы, адабраныя нясумленным чынам у простых украінцаў, таму звычайныя грамадзяне маюць на іх права. *Таму бярыце гэтыя падарункі, але не аддавайце наўзамен вашых галасоў!* Калі ўкраінцы ўсё ж аддадуць свае галасы гэтым палітыкам, яны, магчыма, атрымаюць падарункі і на наступных выбарах, але ўвесь час паміж выбарамі гэтыя кіраўнікі будуць і надалей рабаваць краіну і калечыць нашыя душы.

Толькі тры палітычныя сілы прапаноўваюць рэальныя жыццяздольныя альтэрнатывы нашым паноўным крымінальным кланам. Першая з іх – гэта блок левых сілаў на чале з Аляксандрам Марозам. Тым, хто сімпатызуе левым, варта падтрымаць блок Мароза, а не камуністаў, якія заселі ў тупіку мінулага. Другая сіла – гэта правацэнтрысцкая партыя, якою кіруе былы прэм'ер-міністр, рэфарматар Віктар Юшчанка. Трэцяя палітычная партыя – гэта блок, які ўзначальваю я.

Усе гэтыя сілы трапяць у парламент, але чым шырэй яны будуць прадстаўленыя, тым хутчэй там пачне пераважаць здаровы сэнс і справядлівасць. Мой досвед старшыні Камітэту па бюджэце Вярхоўнай Рады і намесніка прэм'ер-міністра ў Кабінеце міністраў даводзіць, што тутэйшыя крымінальныя элементы могуць быць пастаўлены на калені, калі барацьба з карупцыяй праводзіцца паслядоўна, энергічна і з глуздам, і што Украіна можа стаць больш магутнай і квітнеючай. Усё, што дзеля гэтага патрэбна, – гэта каб украінскія выбарцы прывялі да ўлады людзей, адданых гэтай мэце.

Мы ведаем: за тое, што мы стаім у апазіцыі да сённяшняга рэжыму, на нас будзе выліта шмат бруду і адкрытай хлусні. Але гэта не мае значэння. Мы не шукаем дэманстрацыйных пасадаў і таннай папулярнасці. Мы не жадаем штучнага прызнання і ўзнагародаў. Мы не будзем нясмела азірацца вакол і збівацца са шляху, і мы не павернем назад. Мы будзем імкнуцца да нашых мэтаў незалежна ад таго, дзе можам апынуцца – у парламенце (падтрымліваючы ўрад ці ў апазіцыі да яго), у прэзідэнцкім палацы ці нават у турме за нашыя перакананні (як гэта здарылася са мною ўсяго колькі тыдняў таму). Украінцам не трэба доўга чакаць, калі іхная жыццё палепшыцца. «Украінская вясна» абавязкова надыдзе, калі мы скарыстаем з шанца, што нам выпаў!

**© Project Syndicate, сакавік 2002**

# Мусульмане супраць Злучаных Штатаў

Апытанне грамадскай думкі, праведзенае нядаўна службаю Гэлапа ў Пакістане, Іране, Інданезіі, Турцыі, Ліване, Марока, Кувейце, Іарданіі і Саудаўскай Аравіі, прынесла вельмі паказальныя вынікі і выклікала вялікую трывогу ў заходнім свеце. Каля дзесяці тысяч чалавек з дзевяці самых населеных ісламскіх краін у свеце ўзялі ўдзел у гэтым апытанні. І падобна, што яго вынікі апраўдваюць канцэпцыю, выказаную Самуэлем Хантынгтанам у ягонай кнізе «Сутыкненне цывілізацыяў», дзе ён адзначыў, што палітычныя сутыкненні наступных дзесяцігоддзяў будуць абумоўліваць культурнымі і рэлігійнымі адрозненнямі.

67% апытаных, выбраных алеаторным (выпадковым) чынам у кожнай з краін, лічаць неапраўданымі напады, здзейсненыя супраць ЗША 11 верасня мінулага году. Але гэтаксама 77% рэспандэнтаў лічаць неапраўданымі бамбаванні Злучанымі Штатамі Афганістана. Невысокі працэнт прыхільнікаў ураду Вашынгтону і Злучаных Штатаў робіцца яшчэ больш заўважны ў моцным адмоўным стаўленні да фігуры самога прэзідэнта Джорджа Буша. Усяго 11% апытаных добра ставяцца да амерыканскага прэзідэнта, а 58% трымаюцца процілеглай думкі. Добрыя адносіны да Злучаных Штатаў як да краіны вырастаюць да 22%, а кепскія змяншаюцца зусім няшмат – да 53%. Грамадскай думцы гэтых дзевяці ісламскіх краін не падабаюцца Злучаныя Штаты, але яшчэ менш – іхні прэзідэнт.

Апытанне паказала таксама, што мусульманскае насельніцтва не верыць у тое, што за нападамі стаяць палітычна-тэрарыстычныя ісламісцкія арганізацыі. Толькі 18% апытаных лічаць, што іх здзейснілі ісламісцкія групоўкі. 61% адмаўляе, што арабскія арганізацыі нясуць адказнасць за ўчыненыя напады. Антыамерыканскія настроі не аднолькавыя ў розных краінах. Тым часам як у Турцыі, Ліване і Кувейце адпаведна толькі 59%, 68% і 69% лічаць, што ваенныя дзеянні Злучаных Штатаў у Афганістане неапраўданыя з маральнага пункту гледжання, у Марока, Пакістане і Інданезіі гэтая лічба дасягае 80%, 86% і 89%.

**Ероса, Іспанія**

# Пра што маўчаць швейцарскія гномы?

## *Скандал з рахункамі сям'і Назарбаева*



Загадкавыя швейцарскія гномы – так вобразна называюць захавальнікаў банкаўскіх рахункаў моцных гэтага свету – яшчэ дзесяць гадоў таму і думаць не маглі, якая магутная плынь капіталаў хлыне да іх з Усходу. «Дзевяты вал» даляраў прыйшоў адтуль, дзе на адной шостай частцы зямной сушы яшчэ зусім нядаўна размяшчалася вялізная і загадкавая для заходняга абывацеля краіна з вялізнымі запасамі прыродных багаццяў і надта сціплым узроўнем жыцця людзей, якія яе насяляюць.

Адзін з апошніх скандалаў звязаны з Казахстанам. І гэты скандал апазіцыйныя Нурсултану Назарбаеву газеты адразу назвалі «Казахгейтам». У чым яго сутнасць?

На тайных швейцарскіх рахунках Дзінары Кулібаевай, дачкі прэзідэнта краіны і жонкі галоўнага нафтавіка Казахстана Цімура Кулібаева, апынуліся сотні мільёнаў даляраў. Адкуль? Як цвердзяць тыя ж газеты, схема адпрацавана даўно і дзейнічае спраўна. Замежным кампаніям для таго, каб замацавацца ў багатым на нафту Казахстане і развіць тут прыбытковы бізнес, патрэбныя апекуны. На думку казахстанскай газеты *Время По*, Назарбаеў, стварыўшы вакол сябе магутную сямейна-кланавую групу, якая кантралюе вядучыя сферы эканомікі рэспублікі, адкрыў шлюзы для самага бессаромнага і цынічнага хабарніцтва. Хабар у выглядзе адкрыцця рахункаў у замежных банках, куплі фешэнебельных вілаў, аплаты элітнага адпачынку сям'і прэзідэнта і высокапастаўленых чыноўнікаў зрабіўся стылем жыцця кіраўнічай эліты Казахстану.

Паводле звестак другой, ужо швейцарскай газеты *Le Soir*, у следчых матэрыялах праваахоўных органаў Швейцарыі фігуруюць дзесяць асноўных і два дзесяткі дапаможных кампаніяў і фондаў, праз якія сям'я Назарбаевых і яе атачэнне перапампоўвалі грошы ў банкі Жэневы.

У 1999 годзе генеральны пракурор кантону Жэнева ўзбудзіў цэлы шэраг крымінальных справаў, звязаных з адмываннем грошай. Былі арыштаваны шматлікія дакументы, а таксама сотні мільёнаў даляраў, якія знаходзяцца на рахунках афшорных кампаній у банку *Credit Agricole Indosuez*. І тут пачынаецца самае цікавае. У жніўні таго ж году Рэспубліка Казахстан і гэтыя афшорныя кампаніі падалі апеляцыю ў крымінальны апеляцыйны суд кантону Жэнева з патрабаваннем разблакаваць арыштаваныя рахункі. У матэрыялах суду знаходзяцца іскі ад Дзінары Кулібаевай і кампаніі *Altay Inc.*, зарэгістраванай на Віргінскіх астравах.

Атрымліваецца так, што грошы дзяржаўныя, але захоўваюцца чамусьці на прыватных рахунках. І прычым не ў банках Рэспублікі Казахстан, а ў замежных – нашто з-за поўнай адсутнасці на радзіме дачкі прэзідэнта Назарбаева банкаўскай сістэмы як такой?

Група дэпутатаў ніжняй палаты парламенту Казахстану накіравала 13 сакавіка гэтага году запыт на імя прэм'ер-міністра РК Імангалі Тасмагамбетава з патрабаваннем падняць заслону таямніцы над тымі каласальнымі сумамі, што размешчаны на прыватных рахунках у замежных банках.

**Віктар РУМЯНЦАЎ**

# Даўгія кіпцюры Чарнобылю

## *Французскія чарнобыльцы судзяцца са сваёй дзяржавай за хлусню*

*Чарнобыль... Выбух рэактару, самаахвярнасць выратавальнікаў, зона адсялення, радыеактыўнае воблака ў небе над Еўропай... Нядаўна Незалежная камісія па даследаванні і інфармацыі (CRIIRAD), створаная дзеля таго, каб асвятліць падзеі чарнобыльскай катастрофы, выпусціла альбом «Радыеактыўнае заражэнне: атлас Францыі і Еўропы». Дакумент на 200 старонках прысвечаны аналізу стану еўрапейскай глебы пасля заражэння цэзіем-137 у красавіку 1986 году.*

Французскаму ўраду ўдалося тады ўтаіць рэальныя маштабы бедства на сваёй тэрыторыі. «Ступень радыеактыўнасці ападкаў была заніжана ў тысячы разоў. Мы перакананыя, што можам абвінаваціць дзяржаву ў хлусні», – кажа Ралан Дэборд, прэзідэнт *CRIIRAD*. Ён абапіраецца на дакументы, сабраныя ў рамках следства па фактах скаргаў «аб ненаўмысным нанясенні цялесных пашкоджанняў», якія падалі сотні хворых на рак шчытападобнай залозы. У адным з пратаколаў з пазнакамі высокага чыноўніка, зробленымі ў траўні 1986 году ў міністэрстве ўнутраных справаў, ёсць указанні на павышаны ўзровень утрымання ёду-131 у малацэ. Францыя ніколі не папярэджвала сваё насельніцтва. У пратаколе ўдакладняецца: «Мы маем лічбы, пра якія нельга паведамляць». Дырэктар *CRIIRAD* дае наступнае тлумачэнне: «Найперш Францыя імкнулася захаваць свой ядравы арсенал. За развязанне крызісу ўзялося міністэрства прамысловасці, хоць першым мусіла быць міністэрства аховы здароўя». У якасці доказу прыводзіцца запіс, зроблены ў службе прэм'ер-міністра, які выкрывае занепакоенасць спробай Еўрапейскай камісіі «знізіць дапушчальныя нормы радыеактыўнасці прадуктаў» і нават увесці нормы забароны, «што мела б дрэнныя наступствы для нашых атамных станцыяў, і таму гэтым планам трэба перашкодзіць».

Выпадкі захворвання на рак, выкліканыя, магчыма, радыеактыўным заражэннем, выходзяць на паверхню сёння. Падобна, што ніхто своечасова не папярэдзіў французаў аб небяспецы, у той час як меры перасцярогі, прынятыя італьянцамі, дазволілі значна знізіць рызыку заражэння. Італьянцы прыслухаліся да парады не купляць салаты і шпінату, даваць дзецям і цяжарным жанчынам толькі гатаванае малако, а сяляне не выпускалі жывёлу з хлявоў; таксама была забароненая рыбная лоўля ў азёрах на поўначы краіны.

У Францыі ж прымалі мяккія камюнікe. Напрыклад – 2 траўня: «Радыеактыўныя часцінкі зафіксаваныя ў паўднёва-ўсходняй Францыі, але ў занадта малой прапорцыі, каб уявляць хоць малую небяспеку» (*SCPRI*). І зноўку ў пачатку траўня, калі заражэнне ўзмацнілася: «Узровень радыяцыі павінен быць у 100 000 – 1 000 000 разоў вышэйшы, каб узнікла праблема здароўя нацыі...». Аднак на рынках па розных кутках краіны прадавалася салата, ад якой зашкальвала лічыльнікі – 7 200 бекерэляў на кіло, авечае малако, у якім на Корсіцы ўтрымлівалася 10 000 бекерэляў на літр. (Па еўрапейскіх нормах таго часу спажыванне малака з утрыманнем ёду больш за 500 бекерэляў на літр было забаронена.)

Але афіцыйныя арганізацыі, чыім абавязкам было папярэджваць насельніцтва, маўчалі. У тагачасных дакументах можна прачытаць: «мы маем лічбы, якія нельга рабіць вядомымі», ці «абавязваюся не разгалошваць інфармацыю».

Цяпер вядома, што заражэнне ўсёй усходняй часткі Францыі было значным, нават калі гэтыя дадзеныя не ішлі ні ў якае параўнанне з тым, што было ў раёнах, непасрэдна прылеглых да Чарнобылю. Юрскі раён, Эльзас, частку Верхніх Альпаў, Ваклюз, Корсіку – раёны, дзе радыеактыўныя часцінкі трапілі ў глебу з дажджавой вадой у першы тыдзень траўня 1986 году, – радыяцыя закранула мацней за іншыя. «Закранула» да такой ступені, што ў звярынцы раёна Меркантура, дзе прайшлі моцныя ападкі, да сёння знаходзяць пласты глебы, якія нагадваюць сапраўдныя радыеактыўныя адкіды.

Чарнобыльскае воблака разнесла над Францыяй ёд-131 і цэзій. Цэзій прысутнічае ў глебе дагэтуль. Радыеактыўны ёд знік праз 8 дзён. Але меnavіта ён нанёс найбольшую шкоду, бо канцэнтруецца ў шчытападобнай залозе. У дзяцей да 15 гадоў пападанне ёду ў арганізм можа выклікаць рак праз 5 ці 10 гадоў. Хвароба не заўсёды смяротная, але можа сапсаваць жыццё, бо разбурае гарманальную сістэму, асабліва ў жанчын. Сёння ў Францыі такіх хворых больш за 300 чалавек, гэта галоўным чынам жанчыны, якія перакананыя: яны захварэлі на рак, бо іхніх бацькоў не папярэдзілі пра небяспеку.

Гэтыя 300 чалавек падаюць у суд на дзяржаву, якая іх падманула.

**Nouvelobs, Францыя**

# Свята тэатралаў

*27 сакавіка – Міжнародны дзень тэатру. Ён адзначаецца ад 1962 году паводле адмысловага рашэння UNESCO. Такім чынам, сёлета спаўняецца 40 гадоў, як адзначаюць гэтую дату акцёры, рэжысёры, сцэнографы, драматургі. Нарэшце, гардэробшчыцы, калі ўспомніць, з чаго пачынаецца тэатр.*

Асабіста я штогод у гэты дзень міжволі задумваюся, што да тэатральных вакацыяў застаецца 2 месяцы, і абавязкова трэба яшчэ колькі разоў у гэтым сезоне наведаць які тэатр.

Здаецца, гэтак думае багата людзей, бо апошнім часам запоўненасць заляў у беларускіх тэатрах пакрысе расце. У драматычных тэатрах летась яна была на ўзроўні 75-85%, у лялечных – 95-98%. Хоць у 2000 годзе паказчыкі запоўненасці тэатральных глядзельных заляў у нашай краіне былі яшчэ большыя: напрыклад, у Купалаўскім і Горкаўскім тэатрах – адпаведна 89% і 87%, у Гомельскім драмтэатры – 88%. Для параўнання, 5 гадоў таму крэслы на спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага тэатру імя Янкі Купалы былі занятыя ўсяго на 52%.

Кожны год у нашых тэатрах ставіцца каля сямі дзесяткаў новых спектакляў. Але пры гэтым, на жаль, скарачаецца колькасць спектакляў, што ідуць на беларускай. Калі ў 1995 годзе беларускамоўныя спектаклі складалі палову ад усіх пастановак у рэпэртуары беларускіх тэатраў, то ў 2000 годзе гэты паказчык быў на ўзроўні 37%. Прызнае гэта і міністр культуры краіны Леанід Гуляка, які сёлета на студзеньскай калегіі Міністэрства культуры сказаў, што неабходна перагледзець рэпэртуар беларускіх тэатраў, каб павялічыць колькасць спектакляў па-беларуску.

У Мінкультуры хочуць павялічыць і колькасць саміх тэатраў: ухвалілі адмысловую праграму «Прыярытэтныя напрамкі развіцця тэатральнай справы ў Беларусі», разлічаную да 2005 году. Мяркуецца, што новыя тэатры з'явяцца ў цэлым шэрагу гарадоў – у Баранавічах, Барысаве, Лідзе, Пінску ды Полацку, а ў дзеючых тэатрах будуць ствараца творчыя майстэрні.

У планах таксама арганізацыя яшчэ аднаго тэатральнага фестывалю. Да берасцейскай «Белай вежы», гарадзенскай «Надзеі» і да Бабруйскага фестывалю беларускай драматургіі мае далучыцца новая тэатральная алімпіяда з мінскай прапіскай. Меркавалася, што ў беларускую сталіцу ўжо гэтым летам на яе прыедуць расійскі *МХАТ*, украінскі тэатр імя Лесі Украінкі, кракаўскі «Стары тэатр» і іншыя тэатральныя калектывы іншых краін. Мажлівы расклад фестывалю такі: замежныя тэатры завітаюць да менчукоў не ўсе разам, а па чарзе – будуць гасціць і даваць спектаклі прыкладна па адным тыдні кожны. Праводзіцца Мінская тэатральная алімпіяда (гэта ўмоўная назва) мае ўлетку, калі сталічныя тэатры на вакацыях і іхнія сцэны вольныя. Гэтаксама маглі б быць скарыстаныя залі Палацу Рэспублікі. Аднак пакуль нічога пэўнага пра тэатральныя фестывалі ў беларускай сталіцы не чуваць. Відаць, той выпадак, калі даводзіцца казаць пра цьмяныя перспектывы.

Тэатральны сезон 2001-2002 году прынёс тым, хто няроўна дыхае да Мельпамены, і свае прыемнасці, і свае прыкрасці. З прыемнасцяў – шэраг цікавых прэм'ераў. Будзе іх і яшчэ некалькі – сезон жа не скончаны. Пэўнай сенсацыяй стала з'яўленне маладога 22-гадовага драматурга Андрэя Курэйчыка. Праўда, спектакляў ягоных, каб ацаніць авансы, якія выдаюцца ў тэатральных колах гэтаму хлопцу, гледачы яшчэ не бачылі. Але ў хуткім часе такая магчымасць ім надарыцца. У Купалаўскім тэатры неўзабаве пакажуць пастаноўку па ягонай п'есе «Страчаны рай». А «Пемонцкага звера» А.Курэйчыка, дарэчы, юрыста па адукацыі, збіраюцца ставіць у *МХАТе*. Але, натуральна, больш на памяці прыкрасцяў – адключэнне ад цяпла і святла ў гэтым месяцы Магілёўскага абласнога драматычнага тэатру імя Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску, выкасаванне з рэпэртуару Купалаўскага тэатру спектаклю «Тутэйшыя» нібыта з-за зношанасці дэкарацыяў. Мо то і праўда, бо той самы лёс і з тае самае прычыны, як даводзіць кіраўніцтва тэатру, спасціг і спектакль «Вітаўт». Застаецца спадзявацца, што яшчэ гэтай вясной ці прынамсі ўвосень дэкарацыі абновяцца, і абодва гэтыя спектаклі будуць вернутыя гледачам.

А што думаюць наконт тэатральнага жыцця ў нашай краіне? Да Міжнароднага дня тэатру мы папрасілі некалькіх вядомых беларускіх рэжысёраў і акцёраў назваць самую значную, на іхнюю думку, тэатральную падзею гэтага сезону, самую значную тэатральную падзею апошняга дзесяцігоддзя і «тройку» лепшых беларускіх тэатраў.

**Валерый МАЗЫНСКІ, мастацкі кіраўнік дзвюх «Вольных сцэнаў»:**



Нечага запамінальнага сёлета не магу згадаць. За мінулыя 10 гадоў – хіба што пінігінскі «ART». Яшчэ «падзеяй» стаў пераход Тэатру юнага гледача на расійскую мову. Што да трох найлепшых беларускіх тэатраў, то іх усяго тры і ёсць: Купалаўскі, Коласаўскі ды колішні мой быў. Астатнія – расійскія на тэрыторыі Беларусі.

**Генадзь ДАВЫДЗЬКА, акцёр і дырэктар Купалаўскага тэатру:**



Як тэатральную падзею гэтага сезону я б назваў «КІМ». Тэатральная падзея апошняга дзесяцігоддзя – гістарычная драматургія Аляксея Дударава. Тройку найлепшых тэатраў хай глядач вызначае.

**Ігар ЗАБАРА, акцёр і мастацкі кіраўнік Малога тэатру:**



Яркіх спектакляў у гэтым годзе, на маю думку, не было. А за апошні час гэта «Тутэйшыя» Мікалая Пінігіна. Шкада, што яго прыбралі. Найлепшы тэатр у Беларусі – Купалаўскі, тройка найлепшых спектакляў таксама адтуль: «Тутэйшыя», «Ідылія» і «Крывавая Мэры» на Малой сцэне.

**Барыс ЛУЦЭНКА, мастацкі кіраўнік тэатру імя Горкага:**



Найлепшы спектакль гэтага сезону назваць не магу. У кожнага тэатру ёсць прыстойныя, годныя пастаноўкі, але каб нешта дужа ўразіла, дык не. Тры найлепшыя тэатры, па маім рэйтынгу, – Купалаўскі, наш і ТЮГ.

Падрыхтаваў Кірыла ПАЗЬНЯК

# Аматары пушкінскай ліры,

## або Шчырае прывітанне беларусафобам ад наркома Берыі

*Як ні дзіўна, у нашай, мякка кажучы, не надта багатай краіне заўжды знаходзяцца грошы на бязглуздзіцу, і пагатоў на нешта зусім благое, прыкладам, на руйнаванне ў Беларусі беларускай школы і, пры патрэбе, на бензін для спалення беларускамоўных падручнікаў (глядзі здымкі)*

Міністэрства асветы Беларусі, вернае абранаму вышэйшай уладай курсу на русіфікацыю жыцця і навучання грамадзянаў, імкліва рэалізоўвае планы замены «высокашляхетнай» рускай мовай у нашай школе таго *«наречия»* свінапасаў, на якім, па словах, аднаго вядомага інтэлектуала, немагчыма выразіць вялікія думкі пасрэднага чалавека. Сярод апошніх праяваў такога клопату апынуліся школьныя бібліятэкі, найперш тых школаў, у якіх русіфікацыя ўжо паспяхова завершана і якія падрыхтаваныя да ўступу ў федэрацыю з расійскім міністэрствам асветы.

Вось дзеля прыкладу ў табліцы называюцца вучэбныя дапаможнікі і падручнікі (выданыя апошніх гадоў) з бібліятэкі мінскай сярэдняй школы №193, якім наканавана скончыць свой кароткі жыццёвы шлях на мінскім сметніку ці на вогнішчы (залежна ад волі карнікаў, якія вызначаць належную меру пакарання па моўных прыкметах).

| НАЗВА ПАДРУЧНІКА | АЎТАРЫ-ЎКЛАДАЛЬНІКІ |
|---|---|
| Алгебра, 7 клас | Ю.М.Макарычаў, Н.Р.Міндзюк, К.І.Нешкаў, С.Б.Суворава |
| Родная літаратура, 9 клас | Г.С.Гарадко, У.А.Лебедзеў, В.Я.Ляшук |
| Гісторыя сярэдніх вякоў, 6 клас | І.А.Еўтухоў, А.А.Прахараў, Л.П.Сушкевіч |
| Матэматыка, 6 клас | Э.Р.Нурк, А.Э.Тэльгмаа |
| Беларуская мова, 6 клас | В.П.Красней, Я.М.Лаўрэль |
| Сусвет, 6 клас | М.Дз.Лісаў, І.Я.Шымановіч, І.І.Жаўнярэвіч, В.У.Грузінскі |
| Родная літаратура, 5 клас | Г.Ішчанка, З.Мельнікава |
| Геаметрыя, 7-9 клас | Л.С.Атанасян, В.Ф.Бутузаў, С.Б.Кадомцаў, Э.Г.Пазняк, І.І.Юдзіна |
| Родная літаратура, 7 клас | В.Я.Ляшук, А.А.Майсейчык |

Варта нагадаць, што гэтая вучэбная літаратура выдавалася стотысячнымі накладамі, на іх выдаткаваны мільёны рублёў бюджэтных грошай, сотні тонаў паперы і картону, праца нашых друкароў. Між іншым, на ўсіх іх надрукавана, што яны ўхваленыя Міністэрствам асветы, а пазначаныя на іх аўтарскія калектывы, таксама ўзгодненыя і ўхваленыя, рабілі сваю справу ўжо ў часе прэзідэнцтва А.Лукашэнкі.

Можна зразумець, чаму ў гады сталінскага тэрору палілі беларускія падручнікі і чаму каманды НКУС расстрэльвалі іхніх аўтараў як «нацменаў». Можна таксама зразумець, чаму ў гады акупацыі гітлераўскія захопнікі палілі падручнікі на беларускай мове савецкага выдання. І тыя, і другія стараліся вынішчыць беларускую культуру, асвету, памяць. Але немагчыма ўцяміць, чаму да макулатурнай гільяціны сёння прысуджаюцца беларускія выданні дэмакратычнага часу. Што антыдзяржаўнага нарабілі паэты і празаікі, выбраныя творы якіх складаюць змест падручнікаў літаратуры? Што ідэалагічна шкоднага патрапіла ў падручнікі матэматыкі ці ў «Гісторыю сярэдніх вякоў»? Чым, нарэшце, вінаватая беларуская мова, каб кніжку, якая навучае пісаць без памылак, вывозіць разам з памыямі на звалку, дзе граюць вароны?

Не хочацца задаваць тут рытарычныя пытанні міністэрству асветы – гэта як кідаць гарох аб сцэнку. Не хочацца і перадаваць віншаванні з таго свету ад Л.Берыі ці аматара кніжных вогнішчаў д-ра Гебельса. Бо вуха аматараў пушкінскай ліры нічога не чуе па-за частатой начальніцкага загаду.

Людзі, якія з лёгкасцю рушаць мову, навучанне мове і культуры, называюць сябе беларускімі чыноўнікамі, пры зручным выпадку не забываюць узгадаць пра сваю павагу да справы Скарыны, вершаў Багдановіча і Купалы, эмацыйна прамовіць са сцэны для чужых вушэй пра росквіт беларускасці ў краіне насуперак цяжкасцям эканамічнага характару. Пра змарнаваныя грошы, пра духоўны здзек, якім ёсць вычышчэнне бібліятэк ад «беларускага смецця», са сцэны не гавораць. На фоне падрыхтаваных кніжных вогнішчаў ясней праступаюць чорныя контуры тых новых падручнікаў, на стварэнні якіх настойвае прэзідэнт А.Лукашэнка.

Галіна РУЖКАВЕЦ



























## Найстарэйшая жанчына на Зямлі

Тытул старэйшыны чалавецтва атрымала японка Камота Онга. Ёй 114 гадоў, яна нарадзілася ў пазамінулым стагоддзі, 16 верасня 1887 году. Кніга рэкордаў Гінеса назвала яе найстарэйшым чалавекам на свеце пасля таго, як тыдзень таму скanала амерыканка Мод Фары-Луз, якая пражыла 115 гадоў і 56 дзён. Спадарыня Онга вырасла на вёсцы, а цяпер жыве з адной са сваіх дачок у горадзе Кагасіма. Нягледзячы на свой паважны ўзрост, Камота Онга мае добрае здароўе. Праўда, ёй ужо цяжка рухацца. І яшчэ пра адну асаблівасць сваёй маці расказала яе дачка Шызу Кураўчы, якой 77 гадоў. Па яе словах, маці спіць два дні запар, а наступныя два дні бадзёрая і не засынае нават на хвілінку. З нагоды атрымання тытулу спадарыня Камота Онга выпіла нават чарку сакэ.

У Японіі, дзе працягласць жыцця – самая вялікая ў свеце, жыве і найстарэйшы мужчына планеты – Юкіні Чуганджы. На гэтым тыдні, у суботу, яму споўніцца 113 гадоў.

## Садам публікуе новыя раманы

Не вычэрпваецца пісьменніцкая жыла Садама Хусейна, які аддаў у друк два новыя раманы. Пра гэта паведамілі іракскія журналісты; як і ў выпадку з дзвюма першымі кнігамі, яны не называюць адкрыта імені аўтара, але пры гэтым пяюць яму ўсялякія дыфірамбы.

Газеты пішуць пра трэці і чацвёрты раманы пісьменніка, на папярэдніх працах якога (абедзве выйшлі ў 2000 годзе) было пазначана толькі «Раман свайго аўтара». Але ўсе, пачынаючы з выдання *Babel*, пазналі за загадкавым псеўданімам лідэра Багдаду.

«Адзін з раманаў выйдзе ў красавіку, а другі – пазней, на працягу году», – тлумачыць прадстаўнік агенцтва *INA*. Пра змест нічога не паведамляецца, але дагэтуль аўтар аддаваў перавагу тэмам рамантычнага і палітычна-гераічнага характару.

«Крэпасць» распавядае пра былога салдата пасля вайны 1991 году ў Персідскай затоцы, а «Забібан і кароль» апісвае няшчаснае каханне селяніна да замужняй жанчыны. Галоўная гераіня гэтага апошняга рамана была згвалчаная 17 студзеня, г.зн. у дзень амерыканскага нападу на Ірак. Раманы будуць пакладзеныя ў аснову тэлесерыялу ў дзвюх серыях, паведаміла летась мясцовая прэса.



## Бруклін сядае на дыету

Бруклін сядае на дыету. Рашэнне пра новы рэжым харчавання для ўсіх жыхароў раёну прыняў кіраўнік акругі, які пасадзіў сваіх суграмадзянаў «на хлеб і ваду».

Узброіўшыся статыстычнымі звесткамі, згодна з якімі 61% амерыканцаў важыць зашмат, Марці Маркавіц вырашыў усталяваць у шпіталях і ўстановах вагі, каб заклікаць жыхароў Брукліну – самага густанаселенага раёну Нью-Ёрку – да пахудзення.

Хто жадае, можа ўзважыцца на пачатку і ў канцы двухмесячнай дыеты разам з самім Маркавіцам, таксама досыць мажным. Аднак няпроста будзе схуднець у квартале, што славіцца на ўсім свеце сваімі тлустымі стравамі, як, напрыклад, сырны торт ці хот-догі.

Летась падобную ініцыятыву прапанаваў мэр Філадэльфіі: ён хацеў, каб гараджане скінулі 76 тонаў за 76 дзён. У канцы мерапрыемства Філадэльфія «схуднела» ўсяго толькі на 6 тонаў.

**Il Nuovo, Італія**

## Панкову пашанцавала

Хакеіст беларускай хакейнай зборнай Васіль Панкоў цяпер можа ўздыхнуць з палёгкай і працягваць далей зарабляць грошы, гуляючы за нямецкі клуб «Аўгсбург». Уся справа ў тым, што наш спартсмен, допінг-аналіз якога пасля гульні хакейнага алімпійскага турніру супраць каманды Расіі даў станоўчы вынік, не атрымаў ад Выканкаму міжнароднай федэрацыі хакею амаль ніякага пакарання. Дакладней кажучы, чыноўнікі вырашылі абмежавацца строгім папярэджаннем і дазволам працягваць кар'еру. Па словах супрацоўніка прэс-службы федэрацыі хакею, вырашальнымі фактарамі ў прыняцці рашэння стаў узрост Васіля Панкова (яму трыццаць чатыры гады, і дыскваліфікацыя азначала б развітанне з вялікім спортам) і тое, што большую частку віны ўзяў на сябе галоўны лекар беларускай алімпійскай дэлегацыі Яўген Ласіцкі. У выніку Ласіцкаму забаронена наведваць любыя алімпійскія гульні, летнія ці зімовыя, да 2008 году ўключна. Апроч таго, міжнародная федэрацыя хакею вырашыла ўдвая павялічыць колькасць беларускіх хакеістаў, у якіх пасля афіцыйных гульняў будуць браца аналізы на допінг падчас Чэмпіянату свету па хакеі ў другім дывізіёне, які пройдзе ў красавіку; а таксама аштрафаваць Беларускую федэрацыю хакею на 1 тысячу швейцарскіх франкаў. Усе гэтыя пакаранні па сусветных мерках трэба лічыць вельмі памяркоўнымі.

**Аляксей СТАЎСКІ**

# Мінскае таксі старэйшае за маскоўскае

*22 сакавіка 1907 году прынята лічыць днём нараджэння сучаснага таксі. Тады ў Лондане ўпершыню пасажыр заплаціў кіроўцу за праезд згодна з паказаннямі таксіметра. Раней плата бралася па дамоўленасці бакоў, і, натуральна, іхныя погляды супадалі не заўсёды.*



Мінск, вул. Падгорная (цяпер К.Маркса). Крыжыкам пазначанае месца першай мінскай аўтааварыі

### Еўрапейскія традыцыі

Увогуле ж гісторыя таксі бярэ пачатак ад XVIII стагоддзя. Піянерамі тут прызнаныя французы: менавіта яны заснавалі першы ў свеце двор конных экіпажаў. А паколькі ён размясціўся побач са званніцай святога Фіякра, за экіпажамі і замацавалася назва «фіякры». На іх мог ездзіць кожны ахвотны, абы ў яго хапала грошай, каб за гэта заплаціць. Дагэтуль такая раскоша была даступная толькі для багацеяў, якія мелі ўласныя карэты.

З надыходам эпохі аўтаматызацыі мадэрнізаваліся і «фіякры». На змену коням прыйшоў бензінавы рухавік, а потым яшчэ дадаліся і лічыльнікі платы за праезд. Першыя французскія таксоўкі ўзяліся выпускаць аўтамабільная фірма *Renault*. Яны былі чырвона-зялёнага колеру, што вылучала іх сярод іншых аўтамабіляў, а для кіроўцы ў іх адводзілася месца па-за пасажырскім салонам – наперадзе машыны. З тых часоў французы так і не змянілі сваёй звычкі замест зялёнага агеньчыка, які па ўсім свеце азначае, што машына вольная, карыстацца сцяжком: калі той апушчаны – значыць, машына занятая, падняты – вольная і чакае пасажыра.

Для кансерватыўнай Англіі таксі-кэбы сталі ўжо своеасаблівай візітоўкай краіны. З'явіліся яны на англійскіх дарогах у сярэдзіне XIX стагоддзя ў выглядзе двухколавай коннай адкрытай фурманкі – кабрыялету, ці проста кэбу. З часам яны паступова набылі сучасны выгляд, але заўсёды заставаліся нязменна чорнымі, з кіроўцам, які абавязкова сядзіць толькі за перагародкай, а каля яго, наперадзе, – месца для багажу. Толькі надаўна кэбы сталі рознакаляровымі.

### Першая паездка на таксоўцы – першая аўтаавария

Першы беларускі таксіст з'явіўся на вуліцах Мінску ў 1906 годзе – на год раней, чым у Маскве. Ён быў досыць свядомы грамадзянін, і перад тым, як пачаць перавозіць людзей, нават звярнуўся па адпаведны дазвол да гарадскіх уладаў. Аднак ягоны дэбют адзначыўся першай аўтааварыяй на вуліцах гораду. Праязджаючы па вуліцы Падгорнай, якая цяпер носіць імя К.Маркса, таксіст уехаў у тэлеграфны слуп. Пацярпелі і пасажыры, і машына, а ў мінчукоў гэтае здарэнне на пэўны час адбіла цікавасць да новага віду транспарту, і ягонае развіццё спынілася на шэсць гадоў. Таму, калі ў Лондане ў 1913 годзе налічвалася да 8 000 таксаматораў, а ў той самай Маскве – 224, то ў Мінску – усяго толькі 2.

З рэвалюцыяй прыватнае развіццё сканала, і аж да сярэдзіны 1930-ых гадоў беларусам даводзілася перасоўвацца выключна на грамадскіх відах транспарту. Толькі ў 1936 годзе на вуліцы Мінску нарэшце выехалі першыя паўдзесятка савецкіх таксовак. Пасля вайны на іх усталявалі «шашачкі» і адмысловыя «зялёныя агеньчыкі». У 1965 годзе таксаматораў у Мінску было ўжо каля паўтысячы.

Сёння ў сталіцы, паводле спецыяльнай квоты, можа быць не больш за 4 000 аўтамабіляў-таксовак. На гэтым рынку паслугаў працуюць паўтузіна арганізацыяў і прыватныя кіроўцы, якія маюць ліцэнзію на ажыццяўленне такіх перавозак. Вялікую праблему для іх складае несумленная канкурэнцыя з боку так званых «нелегалаў», што возяць пасажыраў без ліцэнзіі і без сплаты падаткаў. У адным толькі Мінску іх некалькі тысячаў чалавек.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Дастаеўскі па-беларуску

*Перакладчыцкая справа ў Беларусі сёння не перажывае ўздыму, хутчэй яна маруднa плыве ў сваім вузкім рэчышчы. Што да перакладаў на беларускую мову аўтараў далёкага замежжа, то тут, відаць, сітуацыя больш-менш зразумелая. А вось з расійскімі класікамі ўсё ж як сярод літаратараў, так і сярод перакладчыкаў узнікаюць пытанні і спрэчкі накшталт: ці не лепей чытаць арыгінал (бо расійскую мову ўсе ведаюць), чым скажоны пераклад? І ўсё ж...*

Як бы там ні было, у беларускага чытача павінен быць выбар, але сапраўды беларускі глядач калі-небудзь «запатрабуе» беларускага і па-беларуску на сцэне тэатру, у кіно... Перакладчык Дастаеўскага на беларускую мову Андрэй Каляда, заслужаны актор Купалаўскага тэатру, прафесар кафедры сцэнічнай мовы і спеваў Акадэміі мастацтваў, патлумачыў, чаму ён паралельна з акторскай працай перакладае:

– Перакладам я займаюся ўжо 30 гадоў, праўда, толькі з расійскай на беларускую. Справа ў тым, што я займаўся са студэнтамі мовай, выкладаў, трэба было вывучаць яе і практыкавацца на сцэне. Вядома, узнікала патрэба ў беларускім рэпертуары, таму я мусіў займацца перакладчыцкай дзейнасцю. Калі я працаваў прарэктарам Акадэміі мастацтваў, 80 працэнтаў абітурыентаў пісалі творчыя працы на беларускай мове, а 20 працэнтаў – на расійскай, цяпер жа ўсё наадварот.

**– *Стылістыка Дастаеўскага надта непростая. Спадар Андрэй, якія цяжкасці ўзнікалі пры перакладзе гэтага класіка?***

– Справа ў тым, што я не прафесійны перакладчык і не магу казаць пра моўныя цяжкасці. Найперш я – актор, які добра ведае мову. Так, вядома, мне было складана вытрымліваць магутныя тэксты Дастаеўскага. Шчыра кажучы, і вельмі стаміўся, ёсць у яго творах штосьці, што ціснe згусткамі энергіі, уздзейнічае на псіхіку.

**– *Наколькі дакладны ваш пераклад?***

– Я не імкнуўся да ідэальнага перакладу і ў нейкім сэнсе быў сааўтарам Дастаеўскага. Ведаеце, у расійскага творцы я сустрэў вялікі працэнт беларускай лексікі, што значна спрасціла працу, яшчэ больш зацікавіла і ўзрадавала. Ёсць жа ў яго беларускія карані...

**– *Ці не звярталіся вы, спадар Андрэй, па кансультацыю да тых, хто знаецца на Дастаеўскім?***

– Не, не бачыў у гэтым вялікай патрэбы. Але тыя, хто ўжо знаёміўся з перакладам, адзначаюць добры стыль і мову. За паўтара года, працуючы амаль без перапынку, я пераклаў досыць шмат твораў Дастаеўскага, не кранаючы ягоных вялікіх раманаў. І ўжо ў 1996 годзе пераклад быў цалкам гатовы, але доўга ляжаў у дзяржвыдавецтве, пасля ў «Беларускім кнігазборы», нават у 1999-м, калі было 140 гадоў з дня нараджэння пісьменніка, нічога з абяцанага не выйшла.

Цяпер працую над раманамі Дастаеўскага для «Беларускага кнігазбору». Пераклад для мяне – гэта не проста аматарская справа, не стаў неад'емнай часткай маёй прафесійнай дзейнасці.

Пра свае пераклады Андрэй Каляда распавядаў без энтузіязму і радасці, хутчэй стомлена. Справа ў тым, што выдаць кнігу, прэзентацыя якой адбудзецца неўзабаве, удалося толькі праз дапамогу сваякоў у замежжы.

**Гутарыла Ірына ТОЎСЦІК**

## «Гісторыка» святкуе двухгоддзе

Два гады дзейнасці адзначыла рэспубліканскае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне «Гісторыка». 24 сакавіка на прайшоўшай у Мінску II рэспубліканскай канферэнцыі аб'яднання былі падведзены вынікі работы, вызначаны стратэгічны план арганізацыі на найбліжэйшыя два гады, зацверджаны новы статут аб'яднання, праведзены выбары на кіруючыя пасады.

«Гісторыка» мае больш за дзесятак прадстаўніцтваў у розных гарадах краіны, яна аб'ядноўвае маладых людзей, зацікаўленых у вывучэнні беларускай гісторыі для правядзення навукова-асветнай дзейнасці і практычных даследаванняў. Дзейнасць арганізацыі ў асноўным накіравана на захаванне гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Прадстаўнікі «Гісторыкі» займаюцца вывучэннем, аховай і ўборкай старых манастыроў, замкаў, могілак, музеяў пад адкрытым небам, арганізоўваюць навукова-пошукавыя экспедыцыі, праводзяць пасяджэнні гістарычнага клубу па актуальных пытаннях гісторыі Беларусі. У найбліжэйшыя планы аб'яднання ўключаны мерапрыемствы па стварэнні гісторыка-культурных інфармацыйных цэнтраў сумесна з іншымі зацікаўленымі грамадскімі аб'яднаннямі, выдавецкая дзейнасць (часопіс «*Historica*», штоквартальны бюлетэнь «Контрфорс»), конкурсы на гістарычную тэму, святкаванне гістарычных падзей і шмат іншага.

**Лавінія АРЭШКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1138 Нумар падпісаны ў друк 26/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760